ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ
«МІЖНАРОДНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСІСТАЎ»

ЦЭНТРАЛЬНАЯ НАВУКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА ІМЯ Я. КОЛАСА
НАН БЕЛАРУСІ

# АСВЕТНІЦА І МЕЦЭНАТКА

## ДА 150-ГОДДЗЯ МАГДАЛЕНЫ З ЗАВІШАЎ РАДЗІВІЛ

Матэрыялы круглага стала
(Мінск, 15 снежня 2011 года)

МІНСК «КНІГАЗБОР» 2013

УДК 94(476)(092)+929 Радзівіл
ББК 63.3(4Беи)-8
А90

Укладанне, прадмова і навуковае рэдагаванне
*кандыдата філалагічных навук*
Ірыны Багдановіч

**Асветніца і мецэнатка** : Да 150-годдзя Магдалены з Завішаў Радзівіл : матэрыялы круглага стала (Мінск, 15 снежня 2011 года) / уклад., прадм., нав. рэд. І. Багдановіч. — Мінск : «Кнігазбор», 2013. — 100 с.
А90
ISBN 978-985-7057-33-7.

Кніга прысвечана 150-гадоваму юбілею вядомай беларускай асветніцы і мецэнаткі, дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку ХХ ст. Магдалены Радзівіл (1861–1945), якая паходзіла са знакамітага беларускага роду Завішаў. Асноўную частку складаюць матэрыялы праведзенага з гэтай нагоды ўрачыстага круглага стала (Мінск, 15 снежня 2011 г.), у якім бралі ўдзел вядомыя вучоныя, літаратары, мастакі. Кнігу дапаўняюць архіўныя знаходкі і рэдкія публікацыі ранейшых гадоў. Разлічана на даследчыкаў, дзеячаў культуры, выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх устаноў адукацыі, шырокага чытача.

**УДК 94(476)(092)+929 Радзівіл**
**ББК 63.3(4Беи)-8**

**ISBN 978-985-7057-33-7**

## З УДЗЯЧНАСЦЮ І ПАШАНАЙ

Дарагі чытач! Ты трымаеш у руках незвычайную кнігу — гэта кніга ўдзячнасці і пашаны найсвятлейшай высакароднай асобе — Магдалене з роду Завішаў Радзівіл (1861–1945), якая годна і далікатна спрычынілася да адраджэння беларускай культуры, літаратуры, духоўнасці і дзяржаўнасці яшчэ на пачатку XX ст. Яе імем пакуль што не названа вуліца ў Мінску, хаця яна тут жыла, не пастаўлены помнік, не прымацавана нават мемарыяльная дошка. Аднак ёсць прыемная звестка, што імем Магдалены Радзівіл назавуць вуліцу ў новым мікрараёне горада Узда, у наваколлі якога знаходзіліся родавыя ўладанні княгіні, што дасталіся ёй у спадчыну ад бацькі Яна Казіміра Завішы. Менавіта там і адтуль — з палаца ў Кухцічах — разгортвалася плённая беларуская дзейнасць княгіні-патрыёткі, асветніцы, мецэнаткі.

Гэтая кніга ў пэўным сэнсе кампенсуе (хаця і не замяняе) адсутнасць помніка ці мемарыяльнай дошкі, якія, хочацца верыць, у недалёкай будучыні таксама з'явяцца. Асноўную частку кнігі складаюць матэрыялы круглага стала, прысвечанага 150-годдзю з дня нараджэння княгіні Магдалены Радзівіл, арганізатарамі якога выступілі ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў» і Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Мерапрыемства ўрачыста адбылося ў канферэнц-зале гэтай бібліятэкі 15 снежня 2011 года.

У ім бралі ўдзел дырэктар ЦНБ НАН Беларусі Наталля Бярозкіна, намеснік Старшыні Прэзідыума НАН Беларусі Аляксандр Цыганаў, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя, які звярнуў увагу на важнасць і прыя-

рытэтнасць такога кірунку працы, як вяртанне забытых імён дзеячаў беларускай культуры. Дзейны старшыня камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў акадэмік НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Міхаіл Касцюк адзначыў велізарны ўклад такіх асоб, як Магдалена Радзівіл, у беларускі адраджэнскі рух пачатку ХХ ст.

Ганаровы старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесар, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчу ў Лондане з унукам Магдалены Радзівіл, а таксама ў сваім выступленні звязаў імёны Максіма Багдановіча і княгіні, якая фундавала выданне першай і адзінай прыжыццёвай кнігі паэта «Вянок», пра што сведчыла выява лебедзя на кнізе. Пра кухціцкую сядзібу — радавое гняздо Магдалены — натхнёна расказаў прысутным даследчык даўніх сядзібна-паркавых ансамбляў Беларусі доктар біялагічных навук прафесар Анатоль Федарук.

Сваімі меркаваннямі пра дзейнасць і ролю Магдалены ў беларускім адраджэнскім руху падзяліліся кандыдат філалагічных навук паэтэса Ірына Багдановіч, кандыдат гістарычных навук Андрэй Унучак, пісьменнік Віктар Хурсік, які паведаміў пра знойдзеныя невядомыя раней успаміны Магдалены Радзівіл. Мастак Алесь Цыркуноў распавёў пра сваю працу над партрэтам Магдалены і зрабіў акцэнт на сімвалічным сэнсе карціны: аблічча прыгожай маладой жанчыны, што натхнёна трымае ў руках раскрытую кнігу «Вянок» Максіма Багдановіча, сімвалізуе саму Маладую Беларусь, якая ўзнімаецца з гістарычнага нябыту, разрывае ланцугі шматвяковай няволі, што з захаду і ўсходу трымалі яе, велічна і годна ўзнімаецца да вясны свайго адраджэння, да святла свабоды, дзе высока ў нябёсах лунае незалежны беларускі сцяг. Дарэчы, карціна мастака была выстаўлена ў зале і ўсе прысутныя маглі непасрэдна пазнаёміцца з ёю. Адбылася вельмі цікавая і плённая дыскусія, ці аўтэнтычную выяву княгіні ўзяў мастак за першааснову свайго натхнення. Як бы там ні было, важна тое, што дыскусія стымулюе далейшыя пошукі ў дадзеным кірунку, а карціна сама па сабе з яе прыгожай сімволікай мае права жыць уласным жыццём.

Асаблівую важнасць і ўрачыстасць мерапрыемству надало тое, што да яго далучылася ўздзенская дэлегацыя — прадстаўнікі родных мясцінаў княгіні, землякі, якія яе ніколі не забывалі: гэта прадпрымальнік Аляксандр Нікітка, намаганнямі якога ў юбілейным годзе быў выдадзены вельмі прыгожы каляндар у гонар Магдалены з выяваю вышэйзгаданага партрэта княгіні. Невялічкі інфармацыйны тэкст на календары завяршаюць прачулыя і справядлівыя словы: «У гісторыі нашай Радзімы не было такога чалавека, які паклаў бы на справу адраджэння Беларусі і яе культуры столькі ўласных сродкаў, колькі іх ахвяравала Магдалена Радзівіл — слаўная дачка беларускага народа і гонар нацыі». Супрацоўніца Уздзенскага краязнаўчага музея Ірына Віяленцій вітала прысутных ад імя жыхароў радавога гнязда княгіні — Кухцічаў (цяпер пасёлак Першамайск), яна таксама распавяла пра Уздзеншчыну і пра тое, як жыхары захоўваюць памяць пра сваіх славутых землякоў. Уздзенскую дэлегацыю прадстаўлялі таксама мастак Алесь Філіповіч, краязнавец Уладзімір Кісялёў.

Да мерапрыемства была падрыхтавана адмысловая выстаўка-прэзентацыя «Асветніца і мецэнатка», складзеная з перыядычных і кніжных выданняў, да выхаду якіх спрычынілася Магдалена і ў якіх меліся звесткі пра яе саму. З экспазіцыяй выстаўкі прысутных пазнаёміла на самым пачатку імпрэзы загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Алена Цітавец. Бібліяграфія гэтай найбагацейшай выстаўкі маецца ў кнізе і, спадзяемся, паспрыяе далейшым даследаванням жыцця і дзейнасці гэтай велічнай жанчыны, якая пазіцыянавала сябе як свядомая беларуска, была арыстакраткай не толькі па паходжанні, але і па духу. Сюрпрызам на імпрэзе стаў паказ-прэзентацыя змястоўнага і прыгожа знятага відэафільма «Старонкі жыцця вядомай мецэнаткі», падрыхтаванага таксама супрацоўнікамі бібліятэкі.

Кнігу, апрача матэрыялаў круглага стала, дапаўняюць публікацыі, што з’явіліся да юбілею княгіні ў перыядычным друку, новыя архіўныя знаходкі (ліст Магдалены Радзівіл і фрагмент яе ўспамінаў), а таксама рэдкія публікацыі раней-

шых гадоў. Спецыяльна для гэтай кнігі быў падрыхтаваны артыкул вядучага навуковага супрацоўніка Нацыянальна гістарычнага музея Беларусі Ірыны Зварыкі, прысвечаны апісанням партрэтаў прадстаўнікоў роду Завішаў у музейных зборах Беларусі.

Хочацца выказаць шчырую падзяку кіраўніцтву Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі — дырэктару Наталлі Юр'еўне Бярозкінай, загадчыку аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Аляксандру Віктаравічу Стэфановічу — за падтрымку ініцыятывы правядзення мерапрыемства і яго сапраўды арыстакратычную, годную саленізанткі арганізацыю. Асаблівая падзяка дырэктару прадпрыемства «Аграмашсервіс» Уздзенскага раёна Аляксандру Іванавічу Нікітку — за ласкава прадстаўленую аўтару гэтых радкоў магчымасць пабываць у родных мясцінах Магдалены Радзівіл, адчуць жыватворчую атмасферу яе Кухцічаў, самую ў духу прысутнасць там гаспадыні, а таксама за спрыянне і падтрымку ў ажыццяўленні выдання гэтай кнігі.

Сардэчная падзяка ўсім, хто не застаўся раўнадушным да юбілейнай падзеі, ушанаваў сваёй прысутнасцю і словамі вялікую і слаўную жанчыну-патрыётку, асветніцу, якая доўгі час сціпла заставалася ў цені славы іншых. Але ж, як не схаваць бляску таго брыльянтавага кальe, якое яна ахвяравала на духоўнае адраджэнне Бацькаўшчыны, так не схаваць у цемры нябыту бляску праменняў яе высакароднай душы, якія саграваліі давалі жыццё маладым парасткам беларускага нацыянальнага адраджэння. Магдалена Радзівіл дае нам і сёння прыклад, як трэба любіць сваю Бацькаўшчыну і служыць ёй.

*Ірына БАГДАНОВІЧ.*

# МАТЭРЫЯЛЫ КРУГЛАГА СТАЛА

*Алена ЦІТАВЕЦ*

## БЕЛАРУСКАЯ АСВЕТНІЦА І МЕЦЭНАТКА

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падрыхтавана выстаўка «Асветніца і мецэнатка (да 150-годдзя з дня нараджэння Магдалены Радзівіл)».

Княгіня Марыя Магдалена Радзівіл (1861–1945) пражыла доўгае, багатае падзеямі жыццё. Яна нарадзілася 8 ліпеня 1861 г. у Варшаве. Бацька Магдалены Ян (Іван) Казімір паходзіў з беларускага шляхецкага роду Завішаў герба «Лебедзь». Ён быў сапраўдным патрыётам, займаўся археалогіяй, вывучаў гісторыю роднага краю. З малых гадоў бацька прывіваў дачцэ любоў да Беларусі, пазней гэта аформілася ва ўсведамленне ёй сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Раннія гады арыстакраткі прайшлі ў радавых маёнтках Жарноўцы і Кухцічы ў Ігуменскім павеце.

У 1881 г. Магдалена ўзяла шлюб з казачна багатым графам Людвікам Красінскім (1833–1895), які быў ужо ў даволі сталым узросце. Калі муж памёр, іх адзінае дзіця — дачка Марыя Людвіка — атрымала маёмасць у 50 мільёнаў рублёў, частка з гэтых грошай дасталася Магдалене.

Другім мужам Магдалены ў 1906 г. стаў князь Вацлаў Мікалай Радзівіл, на 19 гадоў маладзейшы за яе. Ён не быў сваяком нясвіжскіх Радзівілаў, а паходзіў

з небагатага нямецкага роду. Малады афіцэр прымаў удзел у англа-бурскай вайне, ваяваў на Балканах, а пазней на баку Расіі ў руска-японскай вайне. Ён вызначаўся прыгажосцю, адчайнай адвагай і авантурызмам, у польскіх арыстакратычных колах яго лічылі масквафілам і дзіваком. Шлюб з багатай удавой у вышэйшых колах выклікаў актыўнае незадавальненне. У адказ муж і жонка парвалі ўсялякія сувязі з польскім асяроддзем.

Маладажоны пасяліліся ў Кухцічах — сялянскай рэзідэнцыі княгіні. Магдалена ўпарта падтрымлівала беларускія нацыянальныя ініцыятывы і ігнаравала ўсё польскае. У гэты час у Санкт-Пецярбургу пачала дзейнічаць першая легальная беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» (1906–1914) пад кіраўніцтвам прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Княгіня аказала суполцы фінансавую дапамогу.

Значныя сродкі княгіня выдаткоўвала Беларускаму выдавецкаму таварыству ў Вільні. За яе грошы былі надрукаваны першыя кнігі класікаў беларускай літаратуры. Яна спансіравала першую беларускую газету «Наша Ніва», каталіцкую газету «Biełarus». Дзейнасць Магдалены не абмяжоўвалася дапамогай беларускім выдавецтвам, яна фінансавала таварыствы цвярозасці, шпіталі, адкрыла беларускія школы ў сваіх уладаннях у Кухцічах, Уздзе, Каменцы, аплаціла будаўніцтва ўчастка Лібава-Роменскай чыгункі.

Яна хацела, каб беларускае насельніцтва карысталася роднай мовай (беларуская мова была абавязковай ва ўсіх яе маёнтках, у школах дзеткі навучаліся на беларускай мове), марыла пра адраджэнне ў Беларусі грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы.

На пачатку Першай сусветнай вайны князь Радзівіл загінуў ва Усходняй Прусіі, пахавалі яго ў Кухцічах. Пасля смерці мужа Магдалена жыла то ў сваіх

беларускіх маёнтках, то ва ўласным доме па вуліцы Захар'еўскай у Мінску. У 1918-м яна назаўсёды пакінула Беларусь, спачатку пасялілася ў Польшчы, потым у Германіі. З прыходам да ўлады фашыстаў пераехала ў Швейцарыю, але і адтуль працягвала фінансаваць беларускія арганізацыі, якія знаходзіліся ў Польшчы. Апошнія гады жыцця княгіня правяла ў кляштары сясцёр-дамініканак г. Фрыбурга (Фрыбура). 6 студзеня 1945 г. Магдалена Радзівіл адышла ў іншы свет.

На выстаўцы прадстаўлены выданні, якія фінансавала Магдалена Радзівіл: экзэмпляры газет «Наша Ніва», надрукаваныя кірылічнымі і лацінскімі літарамі (1909–1914), «Biełarus: tydniowaja katalickaja hazeta» (1913–1915), кнігі выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» (1907–1914) і Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні (1913–1915). У фондах ЦНБ НАН Беларусі захоўваюцца экзэмпляры усіх 5 выданняў, на якіх быў надрукаваны герб Магдалены «Лебедзь»: зборнікі вершаў «Вянок» Максіма Багдановіча, «Курганная кветка» Канстанцыі Буйло, «Рунь» Максіма Гарэцкага, «Васількі» Ядвігіна Ш., «Родныя з'явы» Тараса Гушчы (Я. Коласа).

У экспазіцыі — успаміны (друкаваныя і рукапісныя), у якіх пра княгіню Радзівіл так ці інакш распавядаюць самыя розныя асобы. Сярод іх беларускія нацыянальныя дзеячы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, духавенства. Яны пішуць пра свае ўражанні (прыязныя і не вельмі) ад асабістага знаёмства з княгіняй, паведамляюць пра яе дабрачынную дзейнасць.

У фондах ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца рукапіс успамінаў аднаго з вядомых адраджэнцаў, рэдактара-выдаўца «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава «Менск-Беларускі 1912–14 гг.». На вузкіх палосках пажаўцелых аркушаў, счэпленых ніткамі, можна ўбачыць яго запісы

карычневым чарнілам: *«Мікалай Радзівіл, муж вядомай многім беларусам Магдалены Радзівіл (яна у часе вайны ўтрымлівала ў Менску на свой кошт беларускія ахронкі для дзяцей), цікава, што гэтая фамілія лічыла сябе беларусамі і мела вялікі антаганізм з пальшчызнай»*.

Адзін з пачынальнікаў нацыянальнага адраджэння, літаратуразнаўца і публіцыст Вацлаў Ластоўскі ў часопісе «Крывіч» (1926, № 11) напісаў пра тое, як друкаваўся зборнік вершаў «Вянок» Максіма Багдановіча.

У гістарычным нарысе «Bełaruski Chryścijanski Ruch», надрукаваным у часопісе «Chryścijanskaja Dumka» (1938) грамадска-палітычны дзеяч, каталіцкі святар Адам Станкевіч паведаміў пра ахвяраванне княгіняй Радзівіл грошай гуртку беларускай студэнцкай моладзі ў Пецярбургу для арганізацыі бібліятэкі.

Цікавыя і супярэчлівыя назіранні пра жыццё і характар Магдалены змешчаны ва ўспамінах асоб, якія бачылі на свае вочы падзеі тагачаснага жыцця. Пра стаўленне польскіх колаў да Магдалены распавядаецца ў аповесці-дзённіку «Dzieciństwo i młodość Tadeusza Irteńskiego» польскага журналіста і пісьменніка Міхала Паўлікоўскага: *«Магдалена Красінская не вызначалася прыгажосцю. Мела доўгі нос і была, як кажуць, паўвекавухай... Казалі, што пашлюбілася з Радзівілам не з кахання, а назло нейкай варшаўскай паўарыстакратцы, якая яго захапала для сваёй дачкі. Гэтыя варшаўскія інтрыгі неўзабаве асабліва адбіліся на лёсах "польскай" кар'еры Мікалая Радзівіла... Магдалена так узяла да сэрца афронт, выказаны мужу, што з зацятай полькі стала зацятай беларускай»* (London, 1959).

Адвакат, музыказнаўца, даследчык беларускай культуры Гай Пікарда (псеўданім Г. Піхура) у артыкуле, напісаным з нагоды 20-годдзя са смерці Магдалены

Радзівіл, прывёў звесткі, атрыманыя ад графіні Ст. Замойскай: *«Магдалена Радзівіл была сярэдняга ўзросту. Яе фігура была поўная павагі і нават маестату. Нават у старасьці захавала вялікую прыгажосьць, з клясічным прафілям, шэрымі вачамі і белымі валасамі. Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ей падабалася вязаньне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту»* («Княгіня Магдалена Радзівіл» // «Божым шляхам», 1965, № 2).

Каштоўны матэрыял змяшчаюць успаміны асоб, якія працавалі ў маёнтках княгіні. Яны па-рознаму ставіліся да княгіні, па-рознаму апісвалі яе звычкі і лад жыцця. З павагай, вельмі стрымана ўспамінае пра свае сустрэчы з «мульціміліянершай-магнаткай» былы паверана ў маёмасных справах княгіні Гаўрыіл Царык, які аказваў княгіні юрыдычную дапамогу пры будаўніцтве чыгункі Верайцы–Градзянка («Успаміны члена беларускага гуртка ў Вільні» // «Неман», 1998, № 11/12). Па яго словах, Магдалена абмяркоўвала з ім не толькі гаспадарчую дзейнасць, яны размаўлялі пра гісторыю бацькаўшчыны, старажытны род Завішаў, пра беларускую інтэлігенцыю, якая клапацілася пра адраджэнне беларускай культуры. Гаўрыіл Царык выконваў даручэнні княгіні, у тым ліку перадаваў грошы для падтрымкі Беларускага выдавецтва ў Вільні.

Непрыязнае стаўленне да Магдалены выказана ва ўспамінах артысткі і педагога Паўліны Мядзёлкі («Сцежкамі жыцця: успаміны», Мінск, 1974), якая працавала настаўніцай ў беларускай школе ў адным з маёнткаў Магдалены Радзівіл. У сваёй працы яна сутыкнулася з цяжкасцямі: па загадзе княгіні, навучанне павінна было весціся не так, як у іншых школах, а на беларускай мове. Не хапала падручнікаў, сшыткаў і іншых неабходных рэчаў.

Магчыма, разыходжанні ў поглядах, якія выявіліся пазней, паўплывалі на ўспаміны пра сустрэчу з Магдаленай: *«Праз колькі хвілін я стаяла перад невялічкай сухенькай бабулькай. Праз чорную маркізетавую блузку без якога б ні было станіка, прасвечваў касцісты гарсэт. Нядбайна зачасаныя валасы шэрымі ад сівізны касмыкамі рассыпаліся ў розныя бакі. Доўгі з гарбінкай нос і вочы... Шэра-вадзяністыя вочы дапытліва ўпіліся ў мяне».*

З удзячнасцю за атрыманыя працу і жыллё ў цяжкія часы ўспамінае княгіню Іна (Міхаліна) Буйло, малодшая сястра паэтэсы Канстанцыі Буйло, якая разам з сястрой Стасяй таксама ў 1917–1918 гг. працавала настаўніцай у прыватнай школе. Першае спатканне з Магдаленай Радзівіл яна апісвае так: *«Мы увидели седую, худенькую, маленькую старушку, скромно одетую, держащую на коленях собачку»* («По пройденным дорогам» // «Голас Радзімы», 1997, № 19–20).

Доўгі час жыццё і дзейнасць мецэнаткі нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст. — княгіні Магдалены Радзівіл заставаліся ў Беларусі па-за ўвагай і толькі у апошнія дзесяцігоддзі з’явіліся публікацыі, якія далі магчымасць шырокай аўдыторыі пазнаёміцца з асобай выбітнай жанчыны.

У экспазіцыі — 2 невялікія па аб’ёме, але вельмі каштоўныя кнігі, прысвечаныя яе жыццю і грамадскай дзейнасці, беларускага выдаўца і журналіста Віктара Хурсіка «Белы лебедзь у промнях славы: Магдалена Радзівіл» (Мінск, 2001) і шырока вядомай і вельмі паважанай асобы — беларускага грэка-каталіцкага святара, апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў у замежжы Аляксандра Надсана «Княгіня Магдалена Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі» (Мінск, 2006).

На выстаўцы прадстаўлены перыядычныя выданні з артыкуламі Міколы Багадзяжа («Я — беларуска...» // «Беларуская мінуўшчына», 1996, № 1), Аляксандра Надсана («Таямніца брыльянтавага кальe Магдалены Радзівіл»: Гісторыя нязьдзейсненай мары». — «Наша Ніва», 2000, № 49), Алеся Смалянчука («Мы Вас не забудзем ніколі...»: Нататкі з экспедыцыі ў былы маёнтак Кухцічы Марыі Магдалены» // «Дзеяслоў», 2008, № 3) і іншых даследчыкаў, якія адкрылі новыя старонкі ў гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст.

Завяршае выстаўку найноўшая публікацыя — цікавы, сенсацыйны артыкул беларускага літаратуразнаўцы, пісьменніка, гісторыка Адама Мальдзіса «Тайна портрета княгини-“холопоманки”» («Советская Белоруссия», 2011, 16 апреля). У ім аўтар даказвае, што знакаміты партрэт жанчыны з дзяўчынкай, на якім, як меркавалася, намаляваны Магдалена з дачкой, змяшчае выявы зусім іншых асоб — сясцёр Эльжбеты і Гелены Радзівіл. У артыкуле паведамляецца і пра тое, што нібыта знойдзены дзённік Магдалены.

Такім чынам, з’явілася новая інтрыга ў жыццяпісанні неардынарнай асобы, пра якую нам далёка не ўсё вядома. Будзем чакаць новых публікацый пра беларускую асветніцу і мецэнатку, магчыма, самае цікавае яшчэ наперадзе.

*З матэрыяламі выстаўкі можна азнаёміцца таксама на сайце ЦНБ НАН Беларусі па адрасе: http://csl.bas-net.by/mediaplayer/december2011/magdalena_k.swf, а таксама на віртуальных сэрвісах SlideShare і Calaméo па адрасах: http://www.slideshare.net/CSL_by/magdalena-radzivill; http://ru.calameo.com/read/0010614187047b66bdb30.*

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ ДА ВЫСТАЎКІ «АСВЕТНІЦА І МЕЦЭНАТКА», ПРЫСВЕЧАНАЙ 150-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ


1. Багадзяж, М. Я — беларуска... / М. Багадзяж // Беларуская мінуўшчына. — 1996. — № 1. — С. 37–39.
2. Багдановіч, М. Вянок : кніжка выбраных вершоў / М. Багдановіч. — Вільня, 1913. — 117 с. Б 20/ нр 548.
3. Бажэнаў, Ю. Кухціцкі збор — сведка гісторыі / Ю. Бажэнаў // Беларускі гістарычны часопіс. — 2003. — № 3 (47). — С. 56–61.
4. Буйло, И. По пройденным дорогам / И. Буйло // Голас Радзімы. — 1997. — № 15–18.
5. Буйло, К. Курганная кветка / К. Буйло. — Вільня, 1914. — 88 с. Б 20/ нр 570.
6. Галубок. Апаведаньня / Галубок. — Пецярбург, 1913. — 234 с. Б 20/ нр 4279.
7. Колас, Я. Другое чытанне для дзяцей беларусаў / Я. Колас. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1909. — 110 с. Б 20/ нр 385.
8. Крапіўніцкі, М. Па рэвізіі : камедыя ў 1 дзеі / М. Крапіўніцкі. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1911. — 34 с. Б 20/ ср 19.
9. Крапіўніцкі, М. Пашыліся ў дурні : жарцік у 3 дзеях / М. Крапіўніцкі. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1910. — 62 с. Б 20/ нр 945.
10. Купала, Я. Жалейка / Я. Купала. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1908. — 152 с. Б 20/ нр 387.

11. Купала, Я. Шляхам жыцьця / Я. Купала. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1913. — 264 с. Б 20/ нр 952.
12. Кухцічы // Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. — Т. 9. — Мінск, 1999. — С. 64.
13. Марыя Магдалена Радзівіл // Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя : Жыццярысы, мартыралогія, успаміны. — Мінск ; Мюнхен, 1999. — С. 157. Б 20/ нр 7133.
14. Мядзёлка, П. Сцежкамі жыцця : успаміны / П. Мядзёлка. — Мінск, 1974. — 242 с. Б 20/ нр 2233.
15. Надсан, А. Княгіня Магдалена Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі / А. Надсан. — Мінск, 2006. — 109 с. Б 20/ нр 7715.
16. Надсан, А. Таямніца брыльянтавага калье Магдалены Радзівіл : Гісторыя нязьдзейсненай мары / А. Надсан // Наша Ніва. — 2000. — № 49. — 4 сьнежня. — С. 6–7.
17. Нарбут, А. Н. Генеалогия Белоруссии. Вып. 2 (XVI–XVIII) / А. Н. Нарбут. — М., 1994. — 168 с.
18. Наша Ніва : Першая беларуская газэта з рысункамі. — Вільня, 1909.
19. Падарак княгіні Магдалены Радзівіл для беларусаў // Божым шляхам. — 1957. — № 76–81. — С. 12.
20. Піхура, Г. Княгіня Магдалена Радзівіл / Г. Піхура // Божым шляхам. — 1965. — № 2 (89). — С. 9–10.
21. Пялінак, В. Калье Магдалены Радзівіл / В. Пялінак // Наша Ніва. — 2001. — № 11. — 12 сакавіка. — С. 8–9.
22. Семашкевіч, Р. М. Беларусі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе / Р. М. Семашкевіч. — Мінск, 1971. Б 20/ нр 1676.
23. Смалянчук, А. «Мы Вас не забудзем ніколі...» : нататкі з экспедыцыі ў былы маёнтак Кухцічы

Марыі Магдалены / А. Смалянчук // Дзеяслоў. — 2008. — № 3(34). — С. 278–285. Б 20/ нр.
24. Усходняя Беларусь : Статыстычные і гістарычные матэрыялы. — Мінск, 1918. — 13 с. Б 20/ нр 5912.
25. Федорук, А. Старинные усадьбы Минского края / А. Федорук. — Минск, 2000. — 416 с. — (Старинные усадьбы Беларуси). Б 20/ Ср 949.
26. Хурсік, В. Белы лебедзь у промнях славы : Магдалена Радзівіл / В. Хурсік. — Мінск, 2001. — 112 с. Б 20/ нр 7248.
27. Царик, Г. Воспоминания члена Белорусского кружка в Вильне / Г. Царик // Неман. — 1998. — № 11/12. — С. 221–232.
28. Цётка. Першае чытанне для дзетак беларусаў / написала Цйотка. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1906. — 30 с. Б 20/ нр 399
29. Bohuszewicz, F. (Maciej Buraczok). Dudka Biełaruskaja / Maciej Buraczok. — Pieciarburh : Wyd. «Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce!», 1907. — 66 s. — (Biełaruskije pieśniary; t. 1). Б 20/ нр 1626а.
30. Biełaruski lementar abo Pierszaja nawuka czytańnia. — Pieciarburh : Wyd. «Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce!», 1906. — 23 s. Б 20/ нр 81.
31. Biełarus : tydniowaja katalickaja hazeta. — Wilnia. — 1913.
32. Biełarus : tydniowaja katalickaja hazeta. — Wilnia. — 1915.
33. Boh z nami : biełaruśki madliteunik. — Мінск, 1993. — 264 s. — Рэпрынт. узнаўленне выдання : Wilna, 1915. МНР 925.
34. Dunin-Marcinkiewicz, W. Hapon : apowieść biełaruskaja / W. Dunin-Marcinkiewicz. — Pieciarburh : Wyd. «Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce!», 1907. — 32 s. — (Biełaruskije pieśniary; t. 3). Б 20/ нр 378.

35. Dunin-Marcinkiewicz, W. Ščeroŭskije dažynki. Kupałła / W. Dunin-Marcinkiewicz. — Pieciarburh : Wyd. «Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce!», 1910. — 46 s. — (Bełaruskije pieśniary ; t. 6, 7). Б 20/ нр 494.
36. Dunin-Marcinkiewicz, W. Wieczarnicy / W. Dunin-Marcinkiewicz. — Pieciarburh : Wyd. «Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce!», 1909. — 32 s. — (Bełaruskije pieśniary; t. 5). Б 20/ нр 1718.
37. Herbarz Polski. — Cz. 1. — T. 9. — Warszawa, 1906. — S. 348–349. ОБ 19/ ср 10.
38. Maładaja Bełaruś = Маладая Беларусь. — Сэрыя 1, сшытак 1. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1912. — 159 с. Б 20/ нр 1111б.
39. Maładaja Bełaruś = Маладая Беларусь. — Сэрыя 1, сшытак 2. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1912.– 150 с. Б 20/ нр 1111.
40. Maładaja Bełaruś = Маладая Беларусь. — Сэрыя 1, сшытак 3. — Пецярбург : Выд. суполкі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», 1913. — 144 с. Б 20/ нр 1111а.
41. Naša Niwa : pieršaja biełaruskfja gazeta z rysunkami. — Wilnia, 1910.
42. Pawlikowski, M. Dzieciństwo i młodość Tadeusza Irteńskiego / M. Pawlikowski. — Londyn, 1959. — 551 s. — (Londyńska biblioteka literacka). ОБ 20/ нр 5996.
43. Polski Słownik Biograficzny. — T. 30/2. — Warszawa [etc.], 1987. — S. 312–313. Б 20/ нр 714.
44. Polski Słownik Biograficzny. — T. 30/3. — Warszawa [etc.], 1987. — S. 398–399. Б 20/ нр 715.
45. Polski Słownik Biograficzny. — T. 4/1. — Kraków [etc.], 1937. — S. 272–273. Б 20/ нр 195.
46. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego… — T. 4. — Warszawa, 1883. — S. 838. Б 19/ ср 195.

47. Stankievič, A. Bełaruśki chryścijanski ruch : historyčny narys / A. Stankievič. — Vilnia, 1989. — 272 s. Б 20/нр 5413.
48. Woyniłłowicz, E. Wspomnienia, 1847–1928. Cz. 1 / E. Woyniłłowicz. — Wilno, 1931. — 365 s. ОБ 20/нр 1291.

*Ірына ВІЯЛЕНЦІЙ*

## УЗДЗЕНШЧЫНА

Край жыватворных крыніц і салаўіных песень, край адвечных легенд і паданняў, калыска бацькі-Нёмана і радзіма выдатных дзеячаў навукі, культуры і мастацтва!

Тут пачынаецца вяртанне да родных мясцін выдатнай дзяячкі беларускага адраджэння Магдалены Радзівіл. Менавіта адвечная любоў да Беларусі прадвызначыла яе ўчынкі на працягу ўсяго жыцця. Магдалена марыла ўбачыць свае вотчыны квітнеючымі ў складзе вольнай дэмакратычнай незалежнай Беларусі.

Старажытныя кухцічскія муры яшчэ памятаюць голас, крокі і постаць найвялікшай беларускі ў свеце. Ад былой велічы — выдатнага палаца, ландшафтнага парку, аранжарэі, ад усяго, што ствaралася спрадвеку старажытным беларускім родам Завішаў, сёння засталіся толькі бакавыя флігелі ды маляўнічы парк. Згадваць пра былую веліч і прыгажосць мы можам толькі дзякуючы замалёўкам Напалеона Орды ды жывапісным палотнам мастака Алеся Філіповіча, падараваным музею.

І як напамін аб велічы і багацці стаіць кальвінскі збор — помнік беларускаму духу, беларускай культуры.

Гісторыя не захавала імёны тых, хто разбурыў першы падмурак былога прыгожага маёнтка. Але дзякуючы адраджэнню беларускай нацыянальнай свядомасці ў гістарычную памяць народа вернуты постаці, добра вядомыя ў свой час, але забытыя няўдзячнымі нашчадкамі альбо свядома выкрэсленыя савецкай гістарыяграфіяй з народнай памяці.

Сваім укладам у справу беларускага нацыянальнага адраджэння, не шукаючы падзякі і не чакаючы гучных хвалебных од у свой адрас, Магдалена Радзівіл заслужыла ўдзячную памяць свайго пакалення.

Даўно перастала біцца сэрца гарачай патрыёткі і нястомнай асветніцы. Аднак засталіся кнігі, што былі выдадзены на яе грошы; касцёлы, фундаваныя ёю; нашы землякі, якія з яе дапамогай змаглі атрымаць адукацыю і прысвяціць сябе справе служэння роднай зямлі. Засталася памяць. Памяць пра яе.

Я хачу выказаць словы гарачай падзякі ўсім тым, хто дапамагае музею захоўваць гістарычную памяць. Па-першае — арганізатарам гэтай імпрэзы, нашаму нястомнаму генератару ўсіх ідэй і праектаў, краязнаўцу Уладзіміру Мікалаевічу Кісялёву, з дапамогай якога вернуты імёны Якуба Атонавіча Наркевіча-Іодкі, Уладзіміра Зянонавіча Завітневіча. Рэаліі нашых дзён такія, што вельмі многія праекты мы маем магчымасць праводзіць з падтрымкай спонсараў Анатоля Іосіфавіча Сташэўскага, Аляксандра Іванавіча Нікіткі. Дзякуючы супрацоўніцтву з мастакамі Алесем Іванавічам Філіповічам, Лявонам Іванавічам Грышуком, Феліксам Іосіфавічам Шунейкам, на тэрыторыі былога маёнтка Кухцічы праведзены мастацкія жывапісныя пленэры, паводле вынікаў якіх музею перададзены работы мастакоў. Увогуле жыццё працягваецца. З наступаючымі

святамі вас, паважаныя, новых творчых задум і здзяйсненняў, новых сустрэч і новых планаў!

Як кажуць: зазіраючы ў будучае — закасай рукавы, гледзячы ў мінулае — здымі капялюш!

*Ірына БАГДАНОВІЧ*

## ДЗЕЙНАСЦЬ ДЗЕЛЯ БОГА І АЙЧЫНЫ: МАГДАЛЕНА РАДЗІВІЛ І БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

Калі народ выходзіць на шлях свайго гістарычнага станаўлення, знаходзяцца людзі — прарокі і асветнікі, — чыя чыннасць рухае і развівае гэты працэс, робіць яго незваротным. Самаахвярнасць іх акупаецца вынікам, а без яе адраджэнне народа проста немагчымае. На пачатку XX ст. сярод такіх самаахвярных дзеячаў была княгіня Магдалена з Завішаў Радзівіл — свядомая беларуска, асветніца, мецэнатка, на грошы якой друкаваліся першыя беларускія газеты і кнігі, пашыралася выдавецкая дзейнасць, адкрываліся беларускія школы для вясковых дзяцей, прытулкі для сірот і шпіталі для параненых і хворых падчас Першай сусветнай вайны. Магдалену Радзівіл даследчыкі і мемуарысты лічаць «адной з найбольш маляўнічых фігураў навейшай беларускай гісторыі»[1].

[1] Піхура, Г. Княгіня Магдалена Радзівіл / Г. Піхура // Божым шляхам. — 1965. — № 2. — С. 9.

## З роду Завішаў

Магдалена нарадзілася 8 ліпеня 1861 г. у Варшаве. Яе бацька Ян Казімір Завіша паходзіў са знакамітага беларускага шляхецкага роду герба «Лебедзь». Маці Марыя Кванецкая была свядомай і патомнаю полькаю. Ян Завіша ў свой час быў вядомым навукоўцам-гісторыкам, археолагам, які рабіў раскопкі на Ігуменшчыне і Навагрудчыне, даследаваў каменны век, удзельнічаў у міжнародных сімпозіумах. Гэта аднак не надавала яму асабістага капіталу ў вачах варшаўскай радні. Да таго ж ён быў беларусам па духу, адданым патрыётам Бацькаўшчыны, валодаў спадчыннымі землямі, цэнтрам якіх быў палац у Кухцічах, што прыблізна ў 5-і вярстах ад Узды тагачаснага Ігуменскага павета на Міншчыне. Любоў да Беларусі ад бацькі перадалася і Магдалене. Варшаўскія паненкі: Магдалена разам са старэйшай на год сястрой Марыяй бавілі летні час у беларускіх маёнтках бацькі. Але толькі Магдалена пераняла ад бацькі беларускую нацыянальную свядомасць. Ян Завіша ў жонкавай сям'і лічыўся «правінцыялам» з роду, які саступае арыстакратызмам і заможнасцю варшаўскай арыстакратыі. Аднак бацька для Магдалены быў прыкладам служэння беларускай справе, высокіх ідэалаў патрыятызму, сумленнасці, дабрачыннасці.

Высокаадукаваная, свецкі выхаваная і прыгожая Магдалена пакарыла сэрца багатага і ці не самага зайздроснага на той час польскага кавалера графа Людвіка Красінскага, удаўца па першым шлюбе і значна старэйшага за Магдалену. У 1882 г. (па іншых крыніцах у 1881 г.) яна выйшла за яго замуж. Праз год нарадзілася дачка Людвіка. У 1895 г. Магдалена застаецца ўдавой, а па тастаменце Красінскага дачка становіцца спадкаемніцай усіх бацькавых багаццяў. Магдалена

атрымлівае толькі сціплае ўтрыманне. Магдалена і так адчувала сябе чужой у варшаўскім свецкім асяроддзі, а чулыя адносіны паразумення з бацькам, які менавіта ў Магдалене бачыў прадаўжальніка сваіх беларускіх спраў, спрычыніліся да таго, што па бацькавым тастаменце яна стала ўладаркай ягонай спадчыны: маёнткаў Кухцічы і Жорнаўка на Міншчыне. Пасля смерці мужа Магдалена без жалю пакідае Варшаву і стала пасяляецца на бацькавай радзіме. Яна не аддаляецца ад свету, зусім не! Наадварот, яна вандруе, наведвае слынныя еўрапейскія сталіцы, варшаўскую радню. Але сэрца яе належала Беларусі, і пройдзе зусім не шмат часу, калі яе служэнне Беларусі зробіцца рэальнай паўсядзённай справай. Але гэтаму папярэднічалі некаторыя падзеі асабістага жыцця.

## Князь Мікалай

У 1904 г., падчас чарговай еўрапейскай вандроўкі, у Англіі Магдалена знаёміцца з Мікалаем Радзівілам — прадстаўніком берлінскай галіны найвядомейшага беларускага магнацкага роду. Па бацькавай лініі Мікалай быў праўнукам знакамітага Антонія Радзівіла — аўтара музыкі да оперы «Фаўст» паводле вядомага твора Гётэ. Маці Кацярына з роду Жавускіх была пляменніцай пісьменніка Генрыка Жавускага і яго сясцёр, слынных у свой час прыгажунь Эвеліны Ганскай і Караліны Сабанскай. Мікалай быў збяднелым прадстаўніком роду, да таго ж бацькі яго развяліся, што прычыняла таксама душэўны дыскамфорт. Але гэта быў неардынарны чалавек — смелы ваяр, які вызначыўся гераізмам у руска-японскай вайне (пад Порт-Артурам) і быў узнагароджаны ордэнам Св. Уладзіміра, сапраўдны рыцар краю, які дакажа гэта ўласным жыццём. Будучы ліцвінам (беларусам) па паходжанні, ён цікавіўся беларускім

фальклорам, народнымі традыцыямі, меў чуласць да іх носьбітаў-сялян, і гэтым таксама не мог не заваяваць сэрца Магдалены. Сваімі беларускімі прыхільнасцямі ён нагадваў Магдалене светлай памяці бацьку. Ды і яна адпавядала Мікалаю з дзяцінства ўзрошчаным, дзякуючы бацьку, беларускім патрыятызмам, што канчаткова вырашыла адносіны паміж імі. Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце (Магдалена была старэйшая за Мікалая на 19 гадоў), у 1906 г. у Лондане адбываецца шлюб Мікалая і Магдалены, з асуджэннем прыняты ў польскіх арыстакратычных колах, дзе перад імі літаральна зачыняюцца дзверы ўсіх прэстыжных дамоў і клубаў. Але гэта не спалохала нарачоных: у іх была Беларусь, былі тут Магдаленіны землі і маёнткі, якія чакалі сваіх гаспадароў. Магдалена афарміла ў валоданне Мікалая радавы маёнтак у Кухцічах, а ён — не толькі смелы ваяр, але і дбайны гаспадар — найперш заняўся пабудовай чыгункі, каб злучыць беларускую глыбінку з цэлым светам. Дбаў ён і пра лясную гаспадарку і ў цэлым рупіўся, каб выкарыстоўваць новыя на той час тэхналогіі для вядзення сельскагаспадарчых работ і развіцця прамысловасці. Пачатак Першай сусветнай вайны перапыніў гэтую плённую дзейнасць і адразу ж паклікаў яго да выканання ваярскіх абавязкаў, бо ён быў капітанам рэзерву 52-га палка драгунаў расійскай арміі. 17 (30) лістапада 1914 г. Мікалай Радзівіл быў забіты ў баі ва Усходняй Прусіі. Яго хавалі ў склепе маёнткавага касцёла ў Кухцічах, а жалобнае набажэнства праводзіў ксёндз Аляксандр Астрамовіч, ён жа паэт Андрэй Зязюля, які блізка сябраваў з Магдаленай і Мікалаем Радзівіламі. У сваёй прамове ён адзначыў і надзвычайную ваярскую смеласць князя, і яго руплівае гаспадаранне, і адданасць беларускай справе: «Як верны сын свайго краю і бацькаўшчыны <…> пасьпешае

на поля бітвы і кладзе галаву сваю, як багатыр-мучанік ў абароне ўсяго славянства <…> Але нябошчык князь быў ня толькі добрым ваякам. Ён быў і разумным грамадзянінам. Гаспадарачы ў свабодным ад вайны часе ў сваім маёнтку ён зрабіў многа ўляпшэньняў і паставіў яго на даходным ступені. На полі, на лузе і ў лясох пакінаў сляды сваёй разумнай, старannай працы. Шмат заработку і хлеба даў бедным людзям, каторых шанаваў і любіў шчыра. Дбаў для іх і аб хлеб духоўны, будаваў касьцёлы і школы. < …> Ён любіў і простую беларускую мову і прычыніўся да яе пад'ему і да адраджэньня беларускага народу <…> У асобе нябошчыка Князя беларусы трацяць шчыраго абаронцу справы іх адраджэння, трацяць яго ў тым часе, калі займаіцца зара новага лепшаго жыцьця, калі заглядае слонцэ і ў іх ваконцэ»[1]. Так з «сынам зямлі беларускай», як было напісана на вянку, развітваліся беларусы…

## Мецэнатка маладой беларускай літаратуры

Сужэнства з Мікалаем Радзівілам было шчаслівым для Магдалены і пяшчотаю шчырага кахання адно да аднаго і палкай любоўю іх абаіх да Беларусі. Гэтыя два сэрцы знайшліся ў адным інтарэсе ў завірушлівым пачатку стагоддзя, што рыхтавала ўсяму свету новыя выпрабаванні. Справа беларускага адраджэння стала справай жыцця Магдалены і Мікалая. Яны не пісалі ўласных твораў, а таму не былі пісьменнікамі; а таксама не ўдзельнічалі ў адкрытай палітычнай (партыйнай) дзейнасці, а таму не былі і палітыкамі таго часу. Але

---

[1] Тэкст прамовы з партрэтам князя друкаваўся ў «Прыдатку» да газеты «Biełarus» № 52 за 1914 г. Тут намі цыт. па: Хурсік, В. Белы лебедзь у промнях славы : Магдаліна Радзівіл : Гіст. нарыс / В. Хурсік. — Мінск : Пейто, 2001. — С. 37.

іх дзейнасць датычыла і пісьменства, і палітыкі. Гэта была дзейнасць дзеля Бога і Айчыны, дзеля яе нацыянальнага і духоўнага адраджэння. Маёнткі Магдалены прыносілі немалы даход, добрая частка якога ішла на фінансаванне выдавецкай дзейнасці.

Віктар Хурсік у гістарычным нарысе пра Магдалену Радзівіл згадвае, што знаёмства княгіні з беларускім пісьменніцкім і выдавецкім колам адбылося ў часе, калі яна пераехала ў Беларусь пасля смерці першага мужа і жыла ў Кухцічах, Жорнаўцы, Мінску. Яна аднавіла кола ранейшых сяброўскіх зносін, у якім важную ролю адыгрываў мінскі лекар Ян Офенберг, радавое гняздо якога было недалёка ад Завішавай Жорнаўкі. Менавіта ён «пазнаёміў Магдаліну з цэлай плеядай пісьменніцкіх зорак будучай Беларусі»[1]. Магчыма, аднак, што не толькі праз асобу мінскага лекара Магдалена ўвайшла ў кола беларускіх адраджэнцаў, але і найперш дзякуючы свайму другому мужу Мікалаю Радзівілу, які вучыўся ў Пецярбургу, а маючы любоў да беларускага фальклору і іншых праяў беларускай народнай культуры, ужо там ён мог пазнаёміцца з беларускім асяродкам, у якім былі чынныя Браніслаў Эпімах-Шыпіла, браты Луцкевічы, Цётка, а таксама будучыя беларускія святары, што навучаліся ў Духоўнай акадэміі пад апекай таго ж Эпімаха-Шыпілы. Як бы там ні было, а з арганізацыяй легальнага беларускага перыядычнага друку і выдавецкіх суполак пастаянную фінансавую дапамогу ім аказвала менавіта Магдалена Радзівіл пры поўнай падтрымцы свайго мужа. Гэта была на першы погляд не заўважная (не афішаваная), але надта патрэбная дзейнасць людзей, якія не шукалі сабе тут аніякай славы,

---

[1] Хурсік, В. Белы лебедзь у промнях славы : Магдаліна Радзівіл : Гіст. нарыс / В. Хурсік. — Мінск : Пейто, 2001. — С.18.

але шчырай душой беларусаў служылі культурнаму адраджэнню Айчыны. З дапамогай кухціцкай княгіні развівалі сваю дзейнасць выдавецкія таварыствы ў Вільні і суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу, выдавалася газета «Наша Ніва». З 1913 г. у Вільні пачынае выходзіць каталіцкая беларуская газета «Biełarus», якой таксама «заінтарасавалася… — паводле згадкі ксяндза Адама Станкевіча ў кнізе “Беларускі хрысціянскі рух”, — княгіня Магдалена Радзівіліха, каторая сыстэматычна пакрывала даўгі “Biełarusa” аж да яго закрыцця, г. зн. да прыходу ў Вільню немцаў у 1915 г.»[1]. Справам духоўнага адраджэння Беларусі служыла і віленская друкарня «Зьніч», у якой пры падтрымцы Магдалены быў гожа выдадзены першы беларускі малітоўнік для набажэнстваў «Бог з намі». У ліпені 1915 г. газета змясціла ліст Магдалены, у якім яна дзякавала за дасланую ёй кніжку для набажэнства для беларусаў і ўхваляла яе: «Друк дасканалы, абразкі пекныя, а збор малітваў такі як трэба. Гэтакая кніжка пачынае новую эру ў нашай народнай гісторыі і памятка яе і аўтара яе пройдзе да патомкаў»[2].

Знакам падзякі Магдалене за яе мецэнацкую дзейнасць была выява лебедзя — герб роду Завішаў, — якую ставілі выдаўцы на шмуцтытулах кніг, выдадзеных на грошы княгіні. А гэта, заўважым, наступныя кнігі, без якіх немагчыма ўявіць беларускае літаратурнае адраджэнне: «Вянок» Максіма Багдановіча (1913), «Рунь» Максіма Гарэцкага (1914), «Родныя з’явы» Тараса Гушчы (Якуба Коласа, 1914), «Курганная кветка» Канстанцыі Буйло (1914), «Васількі» Ядвігіна Ш. (1914).

---

[1] Станкевіч, А. З Богам да Беларусі. Збор твораў / А. Станкевіч. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. — С. 483–484.

[2] Biełarus. — 1915. — 17 ліп.

І яшчэ на адной кнізе знайшлася памятка абаіх Радзівілаў — прыхільнікаў беларушчыны: гэта першае выданне паэтычнай кнігі «З роднага загону» згаданага ўжо ў нашым артыкуле паэта Андрэя Зязюлі (ён жа каталіцкі святар Аляксандр Астрамовіч). Кніга была выдадзена лацінскім шрыфтам у Вільні друкарняй «Зьніч» у 1913 г., а на вокладцы было пазначана: «фундацыі Радзівілаў (Мікалая і Магдалены з Завішаў)». У гэтай кнізе быў змешчаны верш «Лірнік», які меў пазнаку «пасьвячаю М. Р.». Загадка гэтага прысвячэння разгадваецца, без сумнення, як Магдалене (або Мікалаю) Радзівіл. Аднак на карысць Магдалены сведчыць змест твора, у якім згадваецца менавіта чулая «пані», што выйшла паслухаць беднага лірніка, тады як усе астатнія «паны» «доўга спалі» і не жадалі адчыніць лірніку дзверы. На жаль, гэтае красамоўнае прысвячэнне, якое можа і тут разглядацца як знак удзячнасці аўтара сваім дабрадзеям, знікла пры наступным, больш поўным выданні кнігі ў 1931 г., ужо пасля смерці яе аўтара. Застаецца дадаць, што ў жніўні 1917 г. менавіта Андрэй Зязюля быў капеланам (святаром) хатняй капліцы Магдалены ў Жорнаўцы.

## «Я грошай для маіх беларусаў не шкадую»

Дабрачынную беларускую дзейнасць Магдалены Радзівіл не перапынілі ні Першая сусветная вайна, ні заўчасная гібель яе каханага мужа. Памяць пра яго, відаць, таксама натхняла яе на працяг той дзейнасці, якую яны вялі разам дзеля развіцця беларускай адраджэнскай справы. Вайна прынесла народу новыя выпрабаванні і пакуты. Магдалена садзейнічала адкрыццю дзіцячых прытулкаў і шпіталяў. Яна заснавала ў Мінску дабрачыннае таварыства «Літасць» для дапамогі салдацкім сем’ям. У сваіх уладаннях княгіня адчыніла некалькі

беларускіх пачатковых школ для сялянскіх дзяцей, выкладалі ў іх, між іншым, сёстры Канстанцыі Буйло. Яшчэ ў даваенны час яна таксама шчодра выдаткоўвала сродкі на стыпендыі для студэнтаў-беларусаў, асабліва для тых, хто ішоў вучыцца ў духоўныя семінарыі. Справа духоўнага адраджэння Беларусі была таксама адной з найважнейшых для Магдалены Радзівіл. Яна рупілася пра пабудову грэка-каталіцкай царквы ў Мінску, але не атрымала на тое дазволу гарадскіх улад. Пасылала грошы (100 рублёў — на той час немалая сума) на набыццё беларускіх кніг для Духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу, дзе вучылася цэлая плеяда будучых беларускіх святароў і быў створаны беларускі гурток. А. Станкевіч пісаў: «Бібліятэка сапраўды была заложана. Быў у ёй значны лік кніг з галіны беларусазнаўства, прытым кніг часта даволі цэнных»[1]. На пабудову Беларускага калегіума ў Рыме ёю было ахвяравана ў 1918 г. перад выездам за мяжу каштоўнае ўпрыгожванне — брыльянтавае кальє, аднак здзейсніць гэтую задуму княгіні беларускім дзеячам, на жаль, не ўдалося[2].

Магдалена Радзівіл лічыла сябе беларускай і менавіта так публічна пазіцыянавала сябе. Яна шанавала беларускую мову і спрыяла яе пашырэнню. Так, апрача адкрыцця беларускіх школ, яна ўласным загадам перавяла ўсё справаводства ў сваіх маёнтках на беларускую мову, што было натуральным вынікам той паслядоўнай беларусізацыі жыцця, якой яна спрыяла ўсёй сваёй дабрачыннай дзейнасцю. «Я грошай для маіх беларусаў

[1] Станкевіч, А. З Богам да Беларусі. Збор твораў / А. Станкевіч. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. — С.482.

[2] Больш падрабязна пра справу з кальє Магдалены Радзівіл можна прачытаць у кнізе: Надсан, А. Княгіня Радзівіл і справа адраджэньня Уніі ў Беларусі / А. Надсан. — Менск, 2006. — 112 с.

не шкадую», — так не раз казала Магдалена, паводле ўспамінаў сучаснікаў. Гэта быў той матэрыяльны фундамент беларускага адраджэння, без якога яно аніяк не магло існаваць і пашырацца.

## Ружанцы княгіні Магдалены

У 1918 г. перад прыходам бальшавікоў Магдалена Радзівіл вымушана была пакінуць родную Беларусь. Некаторы час яна жыла ў Варшаве, пасля ў Коўне. Там ёй спрыяў Вацлаў Ластоўскі. Менавіта яго, Власта, намаганнямі выдаваліся тыя самыя кніжкі з выяваю герба «Лебедзь». Магдалена паспела спрычыніцца і да адраджэння літоўскага народа, за што была ўзнагароджана літоўскім урадам Вялікім крыжам ордэна Гедыміна. Далейшы шлях прывёў Магдалену ў Германію, але ў гэтай краіне з пачатку трыццатых гадоў набірае моцы фашызм, і Магдалена пераязджае ў Швейцарыю, дзе застаецца да канца жыцця. Яе зямное жыццё скончылася ў 1945 г. у доме-прытулку ў Фрыбуры, дзе яна пражывала пад апекаю сясцёр-дамініканак. Пра позні перыяд жыцця княгіні пісаў у лонданскім часопісе «Божым шляхам» Г. Піхура (Гай Пікарда) са спасылкай, што атрымаў гэтыя звесткі ад графіні Ст. Замойскай (сваячкі княгіні): «Магдалена Радзівіл была сярэдняга ўзросту. Яе фігура была поўная павагі і нават маестату. Нават у старасьці захавала вялікую прыгожасьць, з клясычным прафілям, шэрымі вачамі і белымі валасамі. Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ёй падабалася вязаньне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту»[1]. Гэтае «вязаньне каронак» — ружанцоў для набажэнстваў —

[1] Піхура, Г. Княгіня Магдалена Радзівіл / Г. Піхура // Божым шляхам. — 1965. — № 2. — С. 10.

было нібы слушным працягам дзейнасці дзеля Бога і Айчыны: той справы духоўнага адраджэння, да якой Магдалена з Завішаў Радзівіл спрычынілася яшчэ ў Беларусі. На тых ружанцах, магчыма, яна і малілася за Беларусь, злучаючыся з роднай далёкай краінай у малітоўных успамінах.

*Адам МАЛЬДЗІС*

## БАГДАНОВІЧАЎСКІ «ВЯНОК» — З ГЕРБАМ «ЛЕБЕДЗЬ»

Памятаецца са студэнцкіх часоў, праведзеных на аддзяленні журналістыкі БДУ: на лекцыю па гісторыі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя выкладчык прынёс для паказу як вялікую рэдкасць першы і адзіны вершаваны зборнік «Вянок» Максіма Багдановіча, выдадзены ў 1913 годзе. Адзін з будучых пладавітых паэтаў заўважыў на калонтытуле кнігі выяву лебедзя, акаймаваную па крузе няхітрым узорам, спытаў, што яна магла значыць. І ў адказ пачуў:

— Відаць, простае ўпрыгожанне. Мастаку ж трэба было нешта прыдумаць…

— А можа, гэта які сімвал? — не сунімаўся студэнт. І час паказаў, што ён меў рацыю.

Сёння мы ўжо ведаем, што «Лебедзь» з'яўляецца гербам шляхецкага роду Завішаў, заслужанага для гаспадарчага і культурнага развіцця Міншчыны. Па спадчыне з боку бацькі той жа выявай карысталася і Магдалена Радзівіл, вядомая грамадская дзяячка і дабрадзейка. Гэта яна, гаворачы сённяшняй мовай, фінансавала дзейнасць першага беларускага выдавецт-

ва «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ», выданне газеты «Беларус», а таксама «Вянка» і іншых зборнікаў. За грошы, атрыманыя ад сваіх маёнткаў ў Кухцічах (цяпер Першамайск), Уздзе, Каменцы, адчыніла там беларускія школы, куды запрасіла як выкладчыкаў Паўліну Мядзёлку і Канстанцыю Буйло, рэфармавала мясцовае гаспадарчае жыццё (пракладка чыгункі, заснаванне лесапільні).

Такая актыўная дзейнасць, скіраваная на матэрыяльнае і духоўнае адраджэнне беларускага краю, не падабалася нясвіжскім Радзівілам, яе сваякам па другім мужу. Яны пагардліва называлі яе «хлопаманкай». Нетыповая для мясцовых багацеяў «беларускасць» Магдалены Радзівіл выклікала насцярожанасць і царскіх улад, якія ўважліва сачылі за дзейнасцю княгіні. Таму вядомы асветнік Іван Луцкевіч, атрымаўшы ад яе грошы на выданне найбольш значных беларускіх кніг, палічыў патрэбным не называць яе прозвішча як мецэнаткі, выказаць ёй падзяку ўскосна, змясціўшы на відным месцы яе стылізаваны і сімвалічны герб. Бо лебедзь і тады, і цяпер з'яўляецца знакам вернасці і чысціні.

І вось сёння, гледзячы ў юбілейныя дні на тытульную старонку «Вянка», я ў каторы раз лаўлю сябе на думцы, што ў гісторыі, у пераемнай сувязі пакаленняў многае дзівосна спалучаецца: сёлета споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння Магдалены Радзівіл і 120 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Ахвярадаўца і творца нібы аб'ядноўваюцца сімвалічнай ніццю. Выяўляюцца іх агульныя і адметныя чалавечыя рысы.

Найперш некалькі слоў пра тое, што розніць Магдалену і Максіма. Вядома, гэта іх сацыяльнае і маёмаснае становішча. Княгіня, нягледзячы на сваю «мужыцкасць», якую часцей лічылі звычайным дзі-

вацтвам, належала да элітнага, арыстакратычнага слоя грамадства. З ёю лічыліся мінскія ўлады, яе рашучасці пабойваліся аканомы, якіх яна прымушала гаварыць і пісаць па-беларуску. Яе мецэнацтва служыла прыкладам для іншых. Аўтар жа «Вянка» вёў свой радавод з сялян, мог аднесці сябе толькі да новай, яшчэ кволай беларускай інтэлігенцыі, а гаворачы сённяшняй мовай, да сярэдняга, «трэцяга» класа.

Затое куды больш што аб'ядноўвала княгіню і паэта. Па-першае, гэта глыбокая павага, моцная любоў да свайго народа, перакананасць, што будучыня за гэтым народам, а, значыць, і іх справай, дзейнасцю. Па-другое, еўрапейскасць мыслення. Магдалена свабодна валодала французскай, нямецкай, англійскай мовамі, нязмушана адчувала сябе ў Варшаве, Лондане, Парыжы. Максім жа захапляўся французскай паэзіяй, перакладаў яе, беларускую літаратуру ён асэнсоўваў у еўрапейскім кантэксце. Па-трэцяе, абое яны ўспрымаліся ў сваім акружэнні як «белыя вароны», выключэнні з агульных правілаў. Магдалену, яе нарадалюбства не разумелі ні ў Нясвіжы, ні ў Варшаве, высмейвалі нават у Мінску і Вільні. А беларуская паэтычная творчасць Максіма яго аднакласнікам і сябрам у Паволжы здавалася незразумелай і непатрэбнай экзотыкай. І толькі, бадай, адзін бацька, будучы народным настаўнікам, разумеў яго.

І, натуральна, узнікае пытанне, ці ведалі Магдалена і Максім адзін пра аднаго, ці сустракаліся. Не ведаць яны не маглі, бо Іван Луцкевіч, напэўна ж, як знак удзячнасці і нават дзеля справаздачнасці ўручыў «Вянок» княгіні, а яна яго прачытала. І паэту, вядома, растлумачылі, адкуль на яго кнізе з'явіўся гербоўны знак. Але, думаю, асабіста яны не бачыліся, хаця і маглі ў 1917 годзе, калі абое бывалі ў Мінску і нават на адной і той жа вуліцы: дом Радзівілаў (муж Магдалены да таго часу загінуў

на фронце) знаходзіўся каля Чырвонага касцёла амаль насупраць «Беларускай хаткі», дзе збіраліся адраджэнцы. Такая неардынарная сустрэча, напэўна ж, пакінула б пасля сябе след у пісьмовых крыніцах.

Пра абаіх герояў гэтага артыкула можна было б расказваць бясконца. Але што датычыцца Багдановіча, то яму прысвечана цэлае мора літаратуры, да якога перад юбілеем дадалася персанальная энцыклапедыя. Зацікаўленых жа лёсам «мужыцкай княгіні» адсылаю да трох кніжак пра яе, выдадзеных у Мінску і Лондане, а таксама да свайго сёлетняга вялікага артыкула пра яе ў газеце «СБ. Беларусь сегодня». Тут жа толькі падкрэслю, што ва ўсіх названых крыніцах мала і цьмяна гаворыцца пра апошнія гады жыцця княгіні, праведзеныя ў Швейцарыі. Усведамляючы гэты прагал, я звярнуўся да старшыні Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Шчаснага з просьбай пасадзейнічаць высвятленню сапраўднай інфармацыі. Электроннай поштай прыйшоў адказ з Берна, сталіцы Швейцарыі, які змяшчаецца ніжэй. У ім упершыню высвятляюцца абставіны знаходжання Магдалены Радзівіл у Фрыбуры пасля фашысцкага перавароту ў Германіі, месца яе смерці і пахавання. Поўны тэкст артыкула Андрэя Кулажанкі будзе зачытаны на вечары, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння Магдалены Радзівіл, які запланавана правесці ў бібліятэцы імя Якуба Коласа НАНБ у сярэдзіне снежня.

*Голас Радзімы, 2011, 15 снеж.*

*Андрэй КУЛАЖАНКА*

# АПОШНІ ПРЫТУЛАК КНЯГІНІ МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ

Беларускія навукоўцы сабралі нямала матэрыялаў пра Марыю Магдалену Радзівіл. Дарэчы, ад нараджэння яна звалася вось так: Марыя Ева Магдалена-Іосіф Эльжбета Апалонія Катажына Завіша. Аднак аповеды заканчваюцца звесткамі, што пасля рэвалюцый яна жыла ў Польшчы, Літве і Германіі, а ў 1932 г. пераехала ў Швейцарыю. Ёсць звесткі, што княгіня паступіла ў кляштар сясцёр-дамініканак, дзе і памерла ў 1945-м. Аўтар аднаго з артыкулаў выказаўся: ніхто, маўляў, сёння не пакладзе кветкі на магілу княгіні. Ды аўтару гэтых радкоў удалося здзейсніць такое ўшанаванне — ускласці рамонкі ля надмагілля княгіні. Гэта ўдасца і вам, калі ў Швейцарыі наведаеце гарадок Фрыбур, кіламетраў за 40 ад Берна. На нямецкай мове горад называецца Фрайбургам («свабодным»). І каб не блытаць яго з нямецкім Фрайбургам, нядаўна афіцыйна рашылі называць яго Фрыбурам. Па тых вулках і хадзіла наша славутая суайчынніца.

Лонданскі даследчык айцец Аляксандр Надсан у кнізе «Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі» (Мінск, 2006) піша, што «рэштку свайго жыцця» мецэнатка правяла ў кляштары сясцёр-дамініканак. Аднак у Фрыбуры Магдалена Радзівіл не ўступіла ў кляштар, а толькі апынулася пад апекай дамініканак у доме для пажылых людзей «Foyer Ste Elizabeth». Паколькі ж была каталічкай і паходзіла з вядомага ў Еўропе роду, ёй там, відаць, не давялося пераадольваць вялікія перашкоды.

Чаму якраз у Фрыбуры аказалася княгіня? І чаму пасялілася менавіта ў доме нумар 4 па вуліцы du Botzet? Хутчэй за ўсё, калі ў Германіі пачаў развівацца фашызм, гэты адрас ёй нехта параіў, магчыма, дачка ад першага шлюбу Марыя Людвіка, якая ў 1932-м пражывала непадалёк, у Францыі. Месца пахавання Магдалены Радзівіл і яе дачкі я знайшоў — ля каталіцкага касцёла ў Бургійоне — дзякуючы дапамозе ксяндза Людовіка Нобеля. Першая і адзіная дачка Магдалены ад першага шлюбу памерла ў Канах і была перавезена ў Бургійон, каб знайсці апошні прытулак разам з маці. У надмагільным надпісе згадваюцца гады жыцця княгіні (1861–1945) і яе дачкі (1883–1958). Запіс №145, знойдзены ў касцельнай кнізе за 1944/5 гады, пацвярджае: Магдалена Радзівіл памерла ў доме-прытулку. Вось тэкст: «Сёння, 9 студзеня, на могілках Бургійона была пахавана княгіня Радзівіл Марыя Магдалена з Варшавы. Памерла ў Фрыбуры ў “Foyer Ste Elizabeth” бульвар Пероль, 6 студзеня. Я пацвярджаю гэта, Алойс Комтэ (святар)». Дарэчы, бульвар Пероль (Boulevard de Perolles) — гэта вуліца побач з домам-прытулкам, які стаіць пры скрыжаванні. Відаць, раней дом меў такі адрас.

Удалося знайсці і запіс аб памерлай дачцэ Марыі Магдалены ад 1958 года: «Princesse Adam Czartoryski née Comtesse Maria Ludwika Krasiriska. 23.01. — памерла ў Францыі ў Канах. 31.01. — пахавана. Бацька — Луіс Людвіг Красінскі, маці — Магдалена Завіскі» (прыводзіцца як у царкоўнай кнізе). Знойдзены і некралог, надрукаваны, напэўна, у 1958 годзе і прысвечаны дачцэ Магдалены — прынцэсе па Адаму Чартарыскім. У ім гаворыцца: «Мы даведаліся аб смерці 23 студзеня ў Канах княгіні Адам Чартарыскі, народжанай Марыі-Луізы Корвін-Красінскай. Памерлая паходзіць з аднаго з самых знакамітых радоў Польшчы. Святар Рамуз

благаславіў некалькі гадоў таму шлюб аднаго з яе сыноў, князя Аўгуста Чартарыскага, з дачкой караля Іспаніі. Памерлая, якая была вельмі высакароднай асобай, шмат гадоў жыла ў Фрыбуры на віле Гарсія».

Вядома ж, узнікае пытанне: можа, маці з дачкой разам і жылі ў Фрыбуры, тым болей што будынкі знаходзяцца зусім недалёка адзін ад аднаго? А можа, дачка Марыі Магдалены перабралася ў Фрыбур пасля яе смерці, каб глядзець за магілай? Не ўдалося высветліць, чаму на пліце напісана, што Магдалена Радзівіл — з Варшавы. Можа, паўплывала на тое сувязь яе з польскай эміграцыяй, бо якраз у Фрыбуры вялікая польская суполка. Шукаючы адказ на гэтае і іншыя пытанні, мне ўдалося выйсці на след аднаго з нашчадкаў княгіні, які жыве ў Цюрыху. Гэта яе прапраўнук Францішак Філіп Марыя прынц Бурбон Абедзвюх Сіцылій, які нарадзіўся ў 1960 годзе ў нямецкім Равенсбургу. Магчыма, з часам праз яго ці іншых нашчадкаў княгіні ўдасца аднавіць малавядомыя старонкі высакароднага жыцця жанчыны, якая шмат дабра зрабіла для беларускай справы. У прыватнасці, і зборнік «Вянок» Максіма Багдановіча пабачыў свет дзякуючы яе фінансавай падтрымцы.

*Голас Радзімы, 2011, 15 снеж.*

*Анатоль ФЕДАРУК*

# КУХЦІЧЫ — РАДАСЦЬ І БОЛЬ КНЯГІНІ МАРЫІ МАГДАЛЕНЫ ЗАВІШЫ

Кухцічы вядомыя з XVI ст. як валоданне Кавячынскіх герба «Астоя». Былі галоўнай сядзібай маёнтка, да якога адносілася і Узда [5]. Купіў маёнтак у Глебавічаў Мацей (канец 1520-х — 1572), намеснік («справца всех замков и дворов») Мікалая Радзівіла Чорнага, вядомы беларускі кнігавыдавец, перакладчык і рэфармацыйны дзеяч, адзін з заснавальнікаў у 1561–1562 гг. Нясвіжскай друкарні. Затым Кухцічы і Узда перайшлі Гектару (?–1582), брату Мацея, старасту радзівілаўскага маёнтка Олыка. Наступнымі ўладальнікамі былі Энах, сын Мацея, падкаморы мінскі, затым яго сын Аляксандр (?–1633), падкаморы вількамірскі. Апошнім уладальнікам Кухцічаў з Кавячынскіх быў Крыштоф (? — пасля 1651), падкаморы мінскі. Крыштоф перайшоў з кальвінізму ў каталіцызм, пераўтварыў збор у Кухцічах у капліцу, заснаваў у Уздзе каталіцкую парафію і фундаваў тут будаўніцтва касцёла [2].

Мабыць, пасля Крыштофа ўладальнікамі Кухцічаў сталі князі Горскія. У 1690 г. ад Барбары Горскай Кухцічы перайшлі да Апалоніі Завішы, удавы Яна Ежы Завішы, старасціны браслаўскай.

Род Завішаў герба «Лебедзь» вядомы з XV ст. [3]. Заснавальнік роду згадваецца ў 1443–1486 гг. У другой палове XVI ст. Завішам па спадчыне ад Барбары Кезгайлы перайшлі вялікія ўладанні роду Кезгайлаў (Ракаў, Бакшты, Смілавічы, Дукора і інш.). *Ян* (1520?–1557) і Мельхіёр (1525?–1592) — сыны Барбары і Яна Завішаў — сталі называцца Кезгайламі-Завішамі і паклалі пачатак дзвюм лініям роду [7]. Кухцічамі валодалі

Завішы, што адгалінаваліся ад старэйшай лініі роду. Пачатак новай (кухціцкай) галіне паклаў вышэйзгаданы Ян Ежы (каля 1620–1671), якому ад бацькі Крыштофа, жанатага з Кацярынай Тышкевіч, старасты браслаўскага, маршалка вялікага, з 1669 г. — кашталяна віленскага, перайшло Браслаўскае староства.

З Завішаў у канцы XVIII — пачатку XIX ст. вядомасць меў Казімір, генерал войскаў польскіх, фундатар драўлянага кухціцкага касцёла, жанаты ў першым шлюбе з Ганнай Ліпскай. Іх адзіны сын Тадэвуш памёр у маладым узросце. Маёнтак перайшоў дачцэ Валерыі, якая стала жонкай свайго стрыечнага брата (па бацьку) Тадэвуша Завішы [9]. Апошнім уладальнікам Кухцічаў (па мужчынскай лініі) быў іх сын Ян Казімір Завіша, жанаты з графіняй Марыяй Квілецкай. Ян (1822–1887) вядомы як археолаг. Займаўся вывучэннем селішчаў чалавека на землях Беларусі па берагах Віліі, Дняпра і Нёмана, міграцыйных шляхоў, якія злучаюць пасяленцаў з Балтыйскім морам, сувязей славянскіх плямёнаў з культурай Рыма і Грэцыі. Вёў археалагічныя раскопкі і вывучаў гарадзішчы, курганы, каменныя магілы (в. Чурылава Мёрскага раёна; в. Альхоўка Уздзенскага раёна — гарадзішча на выспе сярод балот; г. Косава Івацэвіцкага раёна; каля воз. Svіцязь і суседняй в. Валеўка) [4]. Прымаў удзел у працы міжнародных кангрэсаў археолагаў у Венецыі (1871) і Будапешце (1876) па праблеме вывучэння каменнага веку, пачатак распрацоўкі якой заклаў у Беларусі.

Ян Казімір валодаў вялікімі археалагічнымі зборамі, калекцыямі манет і медалёў. Духоўнасць бацькі, яго любоў да роднай зямлі, цікавасць да яе гісторыі, культуры перадаліся дочкам. Дочкі Марыя Ева і Марыя Магдалена атрымалі выдатную адукацыю і выхаванне. Дома і з мясцовым насельніцтвам яны, як і бацька,

размаўлялі на беларускай мове. Любасць да зямлі бацькоў і дзядоў узмацнілася з узростам. У 1912 г. у газеце «Минское русское слово» графіня Марыя Магдалена Радзівіл падкрэсліла: «Лічу сябе беларускай, паходжання літоўскага». Любоў і адданасць зямлі продкаў, паводле выказвання Віктара Хурсіка, з'яўляліся праявай Бога [8].

У 1882 г. Магдалена стала жонкай графа Людвіга Юзэфа Адама Красінскага (1833–1895), сына Аўгуста і Іааны, прадпрымальнага гаспадара, апантанага канявода, які захапляўся жывапісам, зборам антыкварыяту і грамадскай дзейнасцю. Граф быў заснавальнікам філіяла Пецярбургскага таварыства падтрымкі расійскай прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў Польшчы, валодаў шматлікімі маёнткамі ў Польшчы і Галіцыі, некалькімі фабрыкамі ў Варшаве [10]. У пасаг да Магдалены адышла Жорнаўка ў Ігуменскім павеце, маёнтак з зямельным фондам больш за 27 000 дзесяцін [6]. У 1887 г., паводле завяшчання бацькі, уласнасцю Магдалены сталі Кухцічы, якія яна наведвала, пражываючы з сям'ёй у Варшаве.

Кухціцкую сядзібу на тэрасе ракі Уздзянкі заклаў на мяжы XVIII–XIX стст. прадзед Марыі Магдалены Казімір. Маёнтак уключаў фальваркі Каменку, Уздзянку, Зосім, Слабодку і інш. Казімір садзейнічаў развіццю мясцовай прамысловасці. Каля вёскі Задобрычча ў пачатку XIX ст. пачаў дзейнічаць жалезаапрацоўчы завод, дзе выраблялі сельскагаспадарчыя прылады (сошкі, косы, сярпы). Вялікі двор з палацам вызначаўся адмысловым бляскам і быў адчынены для шматлікіх гасцей. Пазней сядзіба пашыралася, змянялася, з чым цяпер звязаны цяжкасці аналізу яе планіроўкі.

Пра мінулую веліч сядзібы сведчыць уязная алея, якая пачынаецца далёка ў полі. На гэтай восі размешча-

на незвычайна шырокая (да 16 м) трохрадная галоўная алея сядзібы з уязной брамай. Яна перасякае сядзібу і выводзіць на мост цераз раку. Уздоўж алеі выцягнуты прастакутны ў плане парк, за ім — парадны двор з палацам. Завяршаецца вось гаспадарчым дваром.

Палацавы ансамбль складаўся з трох аднапавярховых будынкаў: галоўнага корпуса і двух бакавых флігеляў (яны захаваліся), размешчаных сіметрычна і злучаных з корпусам каланаднымі галерэямі. Ансамбль звернуты ў бок, процілеглы параднаму ўезду. Парадны фасад падвышанага галоўнага корпуса пад чатырохсхільным дахам упрыгожваў чатырохкалонны тасканскі порцік, устаноўлены на тэрасе. Цэнтральная частка паркавага фасада была вылучана рызалітам з пяццю спічастымі порта-фянетрамі ў ніжняй частцы і вялікім круглым акном над імі. Рызаліт замыкаўся пляскатым трохкутным франтонам. Бакавыя крылы надавалі пабудове ў плане выгляд падковы. Раман Афтаназі меркаваў, што аўтарам ансамбля з’яўляўся архітэктар Карло Спампані [9]. У ансамблі відаць яго характэрны планіровачны матыў.

Ідэнтычныя бакавыя сямівосевыя флігелі (афіцыны) у плане прастакутныя, з рэгулярным дзяленнем сцен аконнымі праёмамі. Спалучаюць формы класіцызму з мясцовымі прыёмамі бутавага будаўніцтва. Галоўныя фасады вылучаны чатырохкалоннымі масіўнымі порцікамі тасканскага ордара з трохкутнымі плоскімі франтонамі, якія ўпрыгожаны сухарыкамі. Сцены бутавыя, вапна запоўнена буйным друзам, раздзелены атынкаванымі пілястрамі, вокны апраўлены руставанай ліштвой, куты аформлены лапаткамі, у якія ўкрапаны чорны друз. Фрыз з чорнымі (друзавымі) мятопамі і трыгліфамі. Дах чатырохсхільны, пад ім праходзіць пояс сухарыкаў.

У доме меласяя некалькі салонаў. Асноўным з’яўляўся салон з порта-фянетрамі (служыў бальнай залай). Меў выхад на шырокую тэрасу, якая вяла ў парк. Салоны ўпрыгожвалі ляпніна, дубовыя панэлі, старажытная мэбля, мастацкія зборы. Агульную каштоўнасць уяўлялі архіў і фамільныя рэліквіі, якія захоўваліся ў старажытным скарбцы, размешчаным у парку. У парку размяшчалася таксама аранжарэя [9].

Як відаць з малюнка Напалеона Орды, перад палацам распасціраўся вялікі газон з колам у цэнтры, ахоплены па перыметры ліпавымі алеямі. Адзінкава раслі таполі чорныя «Italica». Фасады будынкаў увінаў вінаград пяцілісцевы дзявоцкі. Па баках і з тылу палац атачаў ландшафтны парк з разнастайнымі дрэвамі. Не выключана, што першапачатковая планіроўка яго магла быць рэгулярнай. Парк невялікі, каля 3 га. Мае старыя, прыкладна двухсотгадовыя, дрэвы. Пераважае ліпа. Дрэвы ўтваралі ў мінулым складаны малюнак, магчыма, лабірынт. Растуць таксама 30-метровыя клёны, дубы. Амаль выпаў у апошні час вяз, заражаны галандскай хваробай. З ліку інтрадуцэнтаў захаваліся адзінкавыя хвоі веймутавыя. Па тыпе лясных культур падсаджана таполя гібрыдная. Парк абвеяны легендамі пра падземны ход да касцёла і ва Узду, пра вялікі скарб манет. У куце парку насыпаны ўзгорак. Па паданні, гэта месца пахавання любімага сабакі гаспадара.

На гаспадарчым двары размешчаны былыя млын, стайня, свіран. Млын — у плане прастакутны аб’ём (30×15 м) вышынёй у паўтара паверхі. Сцены ля падмурку таўшчынёй 1,2 м складзены з буйных валуноў з украпваннямі разнаколернага друзу ў вапну. Куты аздоблены рустам з рамкай з чырвонага, усярэдзіне з чорнага друзу. Сцены прарэзаны аконнымі праёмамі;

уваход — у глухой тарцовай сцяне. Да глухой падоўжнай усходняй сцяны аб'ёму прымыкае нізкі корпус (16×7,5 м).

Да заходняй, вышэйшай сцяны млына, амаль ушчыльную падыходзіў вялікі вадаём са старымі, больш як векавымі вербамі ломкімі, тоўстыя экзатычныя галіны якіх звісаюць да зямлі. Гэты, а таксама размешчаны побач другі вадаём (яго ложа цяпер служыць гародам) напаўняліся вадой канала, які, пачынаючыся ад ракі Вусы (у месцы яе скрыжавання з дарогай Узда–Магільна), цягнуўся ўздоўж заходняй мяжы сядзібы да вадаёмаў (назапашвальнікаў). Вада паступала на турбіну млына, а затым адводзілася ва Уздзянку. Такім чынам канал працягласцю каля 3 км злучаў дзве ракі.

Гэта водная сістэма будавалася, мабыць, пры Казіміру, але ідэя стварэння палепшанага транспартнага воднага шляху існавала тут яшчэ ў XVI ст. Вядома, што Мацей Кавячынскі ў 1567 г. звяртаўся да Жыгімонта Аўгуста па дазвол пабудаваць у сваім маёнтку на рэках Вуса і Узда порт, цераз які «витины и всякие товары лесные ходити могли». Кароль дазволіў гэтыя рэкі выпрастаць «аж да самога вусця Нёмана» [5].

Якасцю выканання, вялікімі памерамі (57×18 м) вылучаецца на гаспадарчым двары стайня, складзеная з буйных камянёў з закладкай у вапнавы звязак друзу і дзындры. Дах будынка чатырохсхільны, франтоны цагляныя, верагодна, пазнейшага часу. Цалкам перабудавана фасадная сцяна, высечаны новыя вялікія дзвярныя праёмы. Выкарыстоўваецца пад майстэрні.

Частка сядзібы з іншага боку алеі служыла ў асноўным садам. Цяпер забудавана адміністрацыйнымі будынкамі, інтэрнатамі. Сярод старых дрэў у найбольш прыпаднятай частцы сядзібы размешчаны храм — кальвінскі збор другой паловы XVI ст. Нясе

характэрныя рысы храма-крэпасці, мае складаны план. Асноўны аб’ём уяўляе сабой дванаццацікантовік з вельмі тоўстымі (да 1,5 м) сценамі і конусным шатровым дахам, да якога прымыкаюць прастакутная алтарная частка і прастакутны прытвор, фасад якога фланкуюць дзве круглыя вежы з шатровымі завяршэннямі і вузкімі байніцамі, якія надаюць будынку выгляд абароннага збудавання. Фасад раздзелены пілястрамі, над уваходным праёмам — ляпніна з сімвалічнымі выявамі пачатку XIX ст. Сцены ратонды і алтарнай часткі плоскія, без дзяленняў, толькі прарэзаныя аконнымі праёмамі. Знутры прытвор перакрыты крыжовым зводам, алтарная частка — цыліндрычным зводам з распалубкамі. Над асноўным памяшканнем пакладзена бэлечнае перакрыцце з выпуклай столлю. Пад алтаром размяшчалася крыпта. У XIX ст. Завішаў хавалі ў радавой капліцы на могілках ва Уздзе (часткова захавалася). Інтэр’ер храма меў класіцыстычны выгляд, які сфармаваўся ў перыяд будаўніцтва сядзібы. Дэкорам храма займаўся вядомы разьбяр, скульптар Кароль Ельскі.

Сціплы, але архітэктурна выразны і велічны кальвінскі збор сімвалізаваў сілу пратэстантызму. Дэмакратычныя элементы гэтай рэлігіі стымулявалі развіццё нацыянальнай культуры, адукацыі, кнігадрукавання на беларускай мове. Кальвінізм знайшоў нямала прыхільнікаў, сярод якіх быў род Кавячынскіх, першапачатковых уладальнікаў Кухцічаў. Мацей Кавячынскі, нясвіжскі староста, вельмі адукаваны чалавек свайго часу, скончыў Вітэнбергскі ўніверсітэт у Германіі, добра валодаў некалькімі мовамі, вёў асветніцкую дзейнасць на Беларусі. Пасля закрыцця друкарні Радзівілам Сіроткам апошнія лісты «Катэхізіса» друкаваліся, мабыць, у Кухцічах. Браты Мацея Гектар і Альберт Кавячынскія,

якія жылі ў той час ва Уздзе, напісалі прысвячэнне да гэтага выдання [5].

У 1895 г. Людвіг Красінскі памёр і быў пахаваны ў фамільнай капліцы ў маёнтку Красна. Яго валоданні, якія па кошце набліжаліся да магнацкіх, адышлі да 12-гадовай дачкі Людвікі [10].

Аўдавелая Магдалена неўзабаве пакідае варшаўскі дом Красінскіх і пераязджае на радзіму бацькі, дзе паступова ўваходзіць у новае кола людзей (паэты, мастакі, палітыкі), неабыякавых да лёсу Беларусі [8]. Займаецца мецэнацкай дзейнасцю, выдаткоўвае сродкі на будаўніцтва касцёла па вуліцы Манюшкі ў Варшаве; у Мінску — на шпіталь таварыства дабрачыннасці, прытулак Маўрыкія Чарноцкага, дзіцячыя прытулкі і інш. Разам з дачкой падарожнічае па Еўропе. У 1901 г. выдае Людвіку замуж за Адама Чартарыйскага. Людвіка і Адам, пераехаўшы з Парыжа ў Варшаву, таксама пачалі займацца дабрачыннасцю. У 1906 г. Магдалена становіцца жонкай маладога князя Мікалая Вацлава Радзівіла. Вянчанне адбылося ў Лондане ў каралеўскай Баварскай капліцы [1]. Шлюб багатай удавы з маладым князем, які меў рэпутацыю масквафіла, вышэйшым польскім грамадствам быў успрыняты няўхвальна.

Мікалай Радзівіл пачатковую адукацыю атрымаў у езуітаў, затым вучыўся ў прэстыжным Пажаскім корпусе ў Пецярбургу. Васемнаццацігадовым юнаком пайшоў добраахвотнікам у брытанскае войска, каб удзельнічаць у паўднёва-афрыканскай (бурскай) вайне (1899–1902). Перанёс цяжкае раненне, а праз два гады адмысловай мужнасцю вылучыўся і ў руска-японскай вайне. За адвагу быў узнагароджаны ордэнам Св. Уладзіміра [8].

У 1912 г. беззямельны князь Мікалай Радзівіл становіцца ўласнікам маёнтка Кухцічы, выплаціўшы Маг-

далене 1 200 000 рублёў. Ён запрашае на працу Роберта Брутана і імкнецца падняць прыбытковасць валодання. Захапляецца збіраннем фальклору, падтрымлівае мецэнацкую і фундатарскую дзейнасць жонкі. Муж і жонка адчыняюць і фінансуюць беларускія школы (у Кухцічах, Уздзе, Каменцы), арганізуюць таварыствы цвярозасці. Магдалена аказвае фінансавую дапамогу студэнтам Віленскага ўніверсітэта, беларускім каталікам, часткова фінансуе Друйскі манастыр айцоў марыянаў, будаўніцтва інтэрната семінарыстаў у Вільні, грэка-каталіцкага калегіума ў Рыме; будуе касцёл для літоўскіх католікаў у Лондане, царкву на могілках у Кухцічах (знесена з-за спарахнеласці ў 2010 г.).

Магдалена падтрымлівала першыя беларускія выданні. Апекавалася выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу, газетай «Наша Ніва» ў Вільні, часопісам «Беларус» (выходзіў на лацінцы). На яе сродкі былі выдадзены першыя кнігі класікаў беларускай літаратуры (паэтычны зборнік вершаў «Вянок» Максіма Багдановіча, «Курганная кветка» Канстанцыі Буйло, «Родныя з'явы» Якуба Коласа і інш.).

Новыя гістарычныя падзеі 1912–1913 гг. перанеслі князя з Кухцічаў на Балканы. Спачатку ён разам з балканскімі славянамі ваяваў супраць турак, а потым у складзе балгарскага войска — супраць сербаў і грэкаў. У 1914 г. з Германіі праз Францыю і Англію Мікалай вярнуўся дахаты і адразу ж апынуўся ў шэрагах расійскай арміі, а праз некалькі месяцаў загінуў у няроўным баі ва Усходняй Прусіі.

Пахаванне князя адбылося 26 лістапада 1914 г. у Кухцічах, у кухціцкім зборы. У сваёй прамове на беларускай мове каталіцкі святар з Анопаля Аляксандр Астрамовіч (больш вядомы як паэт Андрэй Зязюля) сказаў: «…князь любіў і простую беларускую мову і

прычыніўся да яе пад’ему і да адраджэньня беларускага народу... Сьмерць князя — гэта вялікая страта для ўдавы княгіні. Гэта страта для ўсіх людзей дваровых і ўсяго беларускага народа. У асобе нябожчыка князя беларусы трацяць шчырага абаронцу справы іх адраджэньня, трацяць яго ў тым часе, калі займаецца зара новага лепшага жыцьця, калі заглядае сонца і ў наша ваконца» [цыт. па 6]. На труну князя Цётка ўсклала вянок з яловых галінак, перавязаны стужкай, са словамі «Пухам Табе, Князь, зямелька ў Тваёй Роднай Старонцы» [8].

У гэты цяжкі час другі раз аўдавелая Магдалена жыла ў Кухцічах, ва ўласным доме ў Мінску, наведвала Жорнаўку. Яна ўсё больш пачынае займацца палітычнай дзейнасцю, збліжаецца з Раманам Скірмунтам, Эдвардам Вайніловічам, Вацлавам Іваноўскім, Аляксандрам Уласавым, Іванам і Антонам Луцкевічамі, падзяляе іх погляды, падтрымлівае матэрыяльна. Дзверы дома княгіні па вул. Захар’еўскай былі заўсёды адчынены для беларусаў, дом з’яўляўся месцам збору беларускага актыву ў 1917–1918 гг. Запаветнай марай Магдалены было бачыць свае ўладанні квітнеючымі ў складзе вольнай дэмакратычнай незалежнай Беларусі [8].

У 1918 г. Магдалена абвясціла сябе грамадзянкай БНР, але жыць у Кухцічах ёй ужо не давялося. У гэтым было адмоўлена. У канцы года княгіня пакінула Кухцічы. Развітанне было нялёгкім. З удзячнасцю пакланілася ўсім і кожнаму кутку ўладанняў. Яна пакідала не толькі любімае бацькава ўладанне. Асаблівыя гарката і боль былі ад расстання з Радзімай, з зямлёй, якой верна служыла і бязмерна любіла.

## Літаратура

1. Багадзяж, М. Я — беларуска / М. Багадзяж // Беларуская мінуўшчына. — 1996. — № 1. — С. 37–39.
2. Бажэнаў, Ю. Кавячынскія / Ю. Бажэнаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Т. 3. — Мінск, 1996. — С. 520–521.
3. Государственный исторический архив Литвы. — Ф. 525. — Оп. 15. — № 525–592.
4. Каханоўскі, Г. Прадвесне навукі / Г. Каханоўскі. — Мінск, 1990. — С. 58–60.
5. Кісялёў, У. М. Пуцявінамі Наднямоння / У. М. Кісялёў. — Мінск, 1994.
6. Надсан, А. Магдалена Радзівілава і грэка-каталіцкая царква / А. Надсан. — Спадчына. — 2000. — № 5–6. — С. 152–162.
7. Насевіч, В. Завішы / В. Насевіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Т. 3. — Мінск, 1996. — С. 393–394.
8. Хурсік, В. У. Белы лебедзь у промнях славы : Магдаліна Радзівіл : гіст. нарыс / В. У. Хурсік. — Мінск, 2001.
9. Aftanazy, R. Dzieje zezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / R. Aftanazy. — Wrocław, Warszawa, Kraków, 1991. — T. 1. — S. 89–92.
10. Tygodnik illustrowany. — Warszawa, 1852. — № 7. — S. 276.

# ДЫСКУСІЯ АБ ПАРТРЭЦЕ: Магдалена Радзівіл і род Завішаў у выяўленчым мастацтве

*Алесь ЦЫРКУНОЎ*

## ПАРТРЭТ КНЯГІНІ МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ

Кожны з нас, хто ў дзяцінстве хоць бы аднойчы зірнуў у калейдаскоп з рознакаляровымі шкельцамі, калі ён не дальтонік, ужо міжволі будзе цягнуцца да яго яшчэ і яшчэ раз. Аналагічна калейдаскопу і бясцэнная скарбонка нашай мінуўшчыны з яе непаўторнымі асобамі. На кожным нязначным адрэзку часу іх напластавана столькі, што дзіву даешся, наколькі народ наш любіў і любіць да самаахвярнасці сваю Радзіму. Але столькі сама здзіўляе і тое, наколькі нікчэмна мала ўвагі і пашаны тым асобам нададзена намі — іх нашчадкамі. І зноўку паўстае філасафічнае суіснаванне двух супрацьлегласцей — высокі патрыятызм з аднаго боку і бяздарная абыякавасць з другога. На вялікі жаль, гэта факт, і чаму так сталася ў нас, мяркую, не варта высвятляць ды марна губляць каштоўны час.

Так, перагортваючы старонкі гісторыі, штораз сустракаючыся з рознымі асобамі, усё больш пранікаешся імі, ды ўрэшце пачынаеш усведамляць, што вось менавіта гэтае, па нейкім збегу абставін, табою павінна быць уважана. Пачынаеш на сабе адчуваць быццам таўро абавязку. Душу тваю няспынна свідруе думка пра стварэнне якогась твора, дзе тая асоба была

б тоесна ажыўлена і як абраз уваскрасіла і вярнула б нам, жывым, сваю тоесную энергію.

Неяк мяне дужа зацікавіла асоба незаслужана пакінутай без увагі нашай нацыянальнай дзяячкі пачатку ХХ стагоддзя Марыі Магдалены Радзівіл з роду Завішаў герба «Лебедзь». За ўвесь мінулы час, як яе не стала, так і не было створана ніводнага твора, дзе яна была б ушанавана. Крыўдна.

Магчымасць распачаць непасрэдную працу над партрэтам з’явілася толькі тады, калі на вока трапіла кніга «Белы лебедзь у промнях славы» В. Хурсіка з выявай і кароткім жыццяпісам названай асобы. Там быў змешчаны яе фотаздымак разам з дачкою Людвікай, якая пяшчотна прытулілася да левага пляча маці. Гэтым здымкам давялося задаволіцца для стварэння той версіі партрэта, якая была мною абрана. Не ведаю, наколькі мне патрапіла раскрыць яе вобраз і дасягнуць тых мэт, якія ставіліся напачатку, хай пра гэта мяркуюць іншыя. Урэшце прыйшоў час распавесці пра наступнае.

Справа ў тым, што названы фотаздымак, адшуканы аўтарам кнігі ў архівах Нацыянальнай бібліятэкі, як высветлілася, з’яўляўся фрагментам карціны невядомага мастака. Чым больш я працаваў над партрэтам, тым больш пераконваўся, што аўтарам яго мог быць толькі Альфрэд Ромэр. Гэтая дагадка набыла яшчэ большую перакананасць, калі ў названай кнізе на адным з фотаздымкаў інтэр’ераў пані пашэнціла агледзець на дальняй сценцы ўжо ўвесь згаданы партрэт. Бязмежна здзіўляла і тое, што на карціне «Хрыстос і сірата» згаданага мастака XIX ст. — цалкам аналагічная кампазіцыя, толькі ў супрацьлеглым развароце. Там да сваіх грудзей Збаўца пяшчотна прытуляе хлопчыка. Калісьці па ўласным жаданні мне давялося працаваць над паменшанай копіяй з таго палатна, што знаходзіцца

ў Камайскім касцёле. Мушу засведчыць: памылкі тут быць не павінна.

Галоўны сэнс усяго гэтага аповеду палягае ў тым, каб адшукаць поўную выяву партрэта Марыі Магдалены ды займець бы з яго адпаведны здымак, а заадно надзвычай важна выявіць яшчэ адзін твор выбітнага майстра, які яшчэ больш яднае яго з нашай гісторыяй і культурай. Паколькі надзвычай багатая і шматгранная творчая спадчына Альфрэда Ізыдора за многія гады ліхалецця была значна расцярушана па свеце, некаторыя прыпісваюцца іншым аўтарам, як залаты медаль з выявай Эмерыка фон Гутэн Чапскага, а многія ўвогуле зніклі бясследна. Тым больш, што да апошняга часу нідзе няма поўнага пераліку ягоных твораў ва ўсіх жанрах, відах і тэхніках. І гэта ў той час, калі на сёння тры краіны з гонарам лічаць гэтага мастака сваім нацыянальным грамадскім дзеячам і ўсе, акрамя Беларусі, маюць у сваіх дзяржаўных сховішчах і экспазіцыях па некалькі дзясяткаў яго твораў. Штосьці не так даўно і мы мелі, але куды яно знікла і з чые дапамогі — невядома.

Цалкам лагічна паставіць пытанне: ці мог А. І. Ромэр быць знаёмым з М. М. Радзівіл настолькі, каб гэты выдатны твор з-пад яго рукі ўбачыў свет? Мушу запэўніць, што тут таксама існуе мноства довадаў, якія адназначна станоўча цвердзяць на карысць праўдзівасці выказанай версіі. Будзем спадзявацца, што апошнюю кропку ў гэтых пытаннях нам дапаможа паставіць хтосьці з дасціпных замежных чытачоў ці мо хто з высакародных нашчадкаў нашай слыннай і высокашляхетнай нацыянальна свядомай дзеячкі.

*Адам МАЛЬДЗІС*

# ТАЯМНІЦА ПАРТРЭТА КНЯГІНІ-«ХАЛОПАМАНКІ»

Выпісаў на экране камп'ютара падзагаловак і прызадумаўся: якія ж дзіўныя цуды творыць матухна-гісторыя! Бо да яго з поўным правам можна было б дадаць словы: «…і да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча». Тым больш што багатую княгіню і беларускага паэта, які не меў сродкаў на лячэнне ў Крыме, злучаюць не толькі надыходзячыя круглыя даты: без дабрачыннай дапамогі першай мог бы і не ўбачыць святло «Вянок», адзіны прыжыццёвы вершаваны зборнік другога.

Адначасова задумаўся: з чаго б гэта пачаць апавяданне пра незвычайную жанчыну, якая парушыла адвечныя класава-сацыяльныя каноны? Яе, спадчынніцу буйных уладанняў у Жорнаўцы і Кухцічах былога Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер гэта Асіповіцкі раён на Магілёўшчыне і Уздзенскі — на Міншчыне), паважалі мясцовыя сяляне, а сваякі-магнаты па другім мужу ў Нясвіжы і Варшаве ды мясцовая апалячаная шляхта зняважальна клікалі «халопаманкай» (chłopomanką) і «беларусафілкай».

Аповед жа пачну з падзеі, якая адбылася амаль 30 гадоў таму назад у Лондане.

## Сустрэча з экс-каралём Абедзвюх Сіцылій

У 1982 годзе мне прапанавалі паехаць па лініі ЮНЕСКА ў двухмесячную навуковую камандзіроўку ў Англію. Пасля працы ў бібліятэках і музеях атрымлівалася яшчэ знаходзіць час для сустрэч з суайчыннікамі,

у тым ліку і са спадчыннікам князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх мецэнатам Анджэем Цеханавецкім, аб якім я ўжо пісаў раней. Нагадаю: яго роду належала сядзіба Бачэйкава каля Бешанковіч, а доктарская дысертацыя, якая грунтавалася на невядомых раней дакументах, была прысвечаная слонімскай «сядзібе муз» гетмана Міхала Казіміра Агінскага.

І вось неяк пан Анджэй патэлефанаваў мне і паведаміў, што са мной жадаў бы сустрэцца ўнук Магдалены Радзівіл і адначасова «экс-кароль Абедзвюх Сіцылій». Паколькі з каранаванымі (хай і «экс») асобамі да таго, ды і пасля, мне сустракацца не даводзілася, нечаканая прапанова выклікала немалую разгубленасць: а што ж яму ад мяне, выхадца з беларуска-літоўскага сялянскага роду, трэба? Але потым верх узяла просценькая цікаўнасць.

І вось у «Хайм-галеры», якой тады валодаў Анджэй Цеханавецкі, насустрач мне выйшаў пажылы мужчына яўна арыстакратычнай крыві і ціхім голасам задаў адно-адзінае пытанне: ці памятаем мы ў Мінску, што яго бабуля «клала грошы» на беларускую справу? Ліхаманкава запрацавала памяць. Выснова была сумная: у грамадстве, дзе тады вышэй за агульначалавечую дабрачыннасць безумоўна ставілася вузкакласавая адзнака, яна не ўдастойвалася падзякі наступных пакаленняў. І раптам усплыло ў памяці: пра яе як пра мецэнатку пісала, хоць і вельмі стрымана, нават, я сказаў бы, непрыязна (для чаго былі свае прычыны), у мемуарах Паўліна Мядзёлка, тая самая, якая выконвала галоўную ролю ў першай пастаноўцы купалаўскай «Паўлінкі». Задаволены гэтым сціплаватым фактам, «экс-кароль» чокнуўся са мной кілішачкам віна і тут жа адправіўся ў лякарню, каб наведаць свайго дзядзьку — «экс-караля Італіі».

Калі б апісаная вышэй сустрэча адбылася сёння, я ўжо змог бы прадэманстраваць унуку Магдалены Радзівіл куды больш істотныя доказы таго, што беларусы ўсё ж памятаюць пра яе дабрачыннасць: кнігі і нават насценны каляндар на 2011 год з партрэтам Магдалены Радзівіл у цэнтры, выдадзены адным уздзенскім прадпрыемствам. Партрэт, якім я часам любуюся, належыць пэндзлю мінчука Алеся Цыркунова і зроблены, як мне сказалі, паводле малюнка з княгіні Магдалены і яе дачкі Людвікі, які нібыта вісеў у Кухцічах.

## Партрэт-загадка

І раптам усю маю ўпэўненасць разбурыла меркаванне з боку. Я пачуў аргументаванае: гэта не Магдалена Радзівіл, гэта Эльжбэта і Гелена Радзівіл, сёстры Ежы Радзівіла (1860–1914), аднаго з уладальнікаў Нясвіжскага замка. Эльжбэта нарадзілася ў 1861 годзе, тым жа, што і Магдалена. Гелена была на 13 гадоў маладзейшая. А партрэт вісеў у Нясвіжы ў салоне ўдавы Ежы. Ёсць і фатаграфія інтэр’ера гэтага пакоя, дзе злева відаць партрэт, а справа — характэрная для Нясвіжа печка, якая захавалася да нашых дзён. Больш таго, з прыходам новай улады ўдаву пакінулі на некалькі месяцаў у замку, каб яна апісала партрэты пры іх канфіскацыі. І памыліцца ў распазнанні сясцёр свайго мужа яна не магла. Да таго ж Эльжбэта Радзівіл-Тамашэўская, цяперашняя частая госця Нясвіжа, таксама добра памятае сясцёр свайго дзеда Ежы.

І тады я пачаў уважліва супастаўляць розныя малюнкі, што прапаноўваю цяпер зрабіць і чытачам.

Такім чынам, імпазантная дама на календары сапраўды нагадвае тую жанчыну, да якой даверліва прыціснулася дзяўчынка. Па адной версіі, яна дачка княгіні Людвіка, па іншай — Гелена, малодшая сястра

Эльжбэты, прадстаўніцы іншай галіны роду Радзівілаў. Хто ж мае рацыю?

У пошуках адказу прыйшлося звярнуцца да іншых, фатаграфічных, выяў княгіні Магдалены, пра якія дакладна вядома, што на іх — менавіта яна. Вось уладальніца Кухцічаў у маладым узросце, вось яна ж — у апошнія гады жыцця. І адразу ў вочы кінуліся неадпаведнасці здымкаў з партрэтамі: перад намі — розныя твары. Па словах мемуарыстаў, якія добра ведалі княгіню, яна была непрыгожая: нос задоўгі, з гарбінкай, а вочы шэрыя, пранізлівыя. Калі глядзець на партрэты, твары там іншыя: іншыя нос і падбародак, а вочы блакітнаватыя.

Аднак давайце часова пакінем развагі аб партрэце княгіні Магдалены і зоймемся яе радаводам і жыццёвым шляхам, а таксама мужамі — людзьмі неардынарнымі, якія вельмі паўплывалі на яе лёс, і такімі непадобнымі адзін да аднаго.

## З Завішаў герба «Лебедзь»

Беларускі род Завішаў, цесна звязаны з Валовічамі, Тышкевічамі і Агінскімі, карыстаўся каралеўскімі прывілеямі яшчэ з XIV стагоддзя. Даў ён Вялікаму Княству Літоўскаму нямала адважных ваяроў і разумных дыпламатаў, якія пазначаліся на дзелавых паперах гербам «Лебедзь». Лічыліся яны найбуйнейшымі землеўласнікамі на ўсёй Ігуменшчыне. У Кухцічах, у іх галоўнай сядзібе, меліся багатыя калекцыі карцін і кніг, аднак падрабязныя апісанні збораў да нас не дайшлі.

У дзяцінстве Магдалена Завіша, якая нарадзілася ў Варшаве 8 ліпеня 1861 года, атрымала добрую адукацыю, шмат ездзіла з бацькам па заходнееўрапейскіх гарадах і курортах. У маладыя гады спадабалася нечувана багатаму графу Людвіку Красінскаму, гадоў на 30

старэйшаму за яе. Неўзабаве ў іх нарадзілася адзіная дачка Людвіка. Паміраючы ў 1895 годзе, граф адпісаў дачцэ маёмасць прыкладна на 50 мільёнаў рублёў, што забяспечыла ёй потым бліскучы прыём у арыстакратычных салонах Варшавы і іншых еўрапейскіх гарадоў. «Беларусафільскіх» захапленняў маці Людвіка не падзяляла, у Панямонне і Падзвінне не імкнулася.

Затое Магдалена, стаўшы вольнай, то жыла ў Жорнаўцы, дзе з захапленнем слухала ўспаміны бацькавага сябра і ўдзельніка паўстання 1863 года Антона Асоўскага, то падарожнічала па Еўропе. У 1904 годзе ў Лондане яна выпадкова сустрэлася з Мікалаем Радзівілам, празваным у Нясвіжы за сваю беднату «беззямельным». Ён быў поўнай супрацьлегласцю Людвіку Красінскаму: маладзейшы за Магдалену на 19 гадоў, адкрыты, вясёлы, ласкавы, вельмі адважны — вызначыўся ў англабурскай вайне, потым у бітве з японцамі пад абложаным Порт-Артурам, адкуль прарваўся з важнымі паперамі на звычайнай лодцы, за што быў узнагароджаны ордэнам Святога Уладзіміра. І нарэшце нават лічыўся — о, жах! — русафілам. Вестка пра ўсё гэта вокамгненна абляцела Варшаву, у выніку эліта перастала запрашаць маладую пару на цырымоніі, дайшло да публічных абраз. Такое трэціраванне канчаткова ўпэўніла Магдалену ў правільнасці яе ранейшых сімпатый і антыпатый, і саспела рашэнне: канчаткова пераехаць у Жорнаўку, пачаць новае жыццё. А каб Мікалай не адчуваў ніякіх комплексаў непаўнацэннасці, Магдалена афарміла на мужа каралеўскі падарунак — сядзібу ў Кухцічах. У паўсядзённым жыцці шчаслівай пары гэта нічога не змяніла.

У Жорнаўцы і Кухцічах нечакана для ўсіх Мікалай Радзівіл пачаў выяўляць незвычайныя гаспадарчыя здольнасці. Асноўнае багацце першай з сядзіб складалі

27 тысяч дзесяцін хваёвых і дубовых лясоў. Высякаліся яны па-навуковаму, з абнаўленнем пасадак. І каб з выгадай пастаўляць драўніну за мяжу, на еўрапейскія таварныя біржы, князь арганізаваў пракладку новай шырокакалейнай чыгункі Вярэйцы–Градзянка, якая існуе і сёння. Адным канцом яна выходзіла да Лібава-Роменскага гандлёвага шляху, затым, каля Жорнаўкі, ішла праз станцыю Завішын, названую так у гонар продкаў княгіні. У 1911 годзе, да 50-годдзя Магдалены, услед за таварнымі па ветцы пайшлі і пасажырскія цягнікі. Лесасекі былі прададзены на шмат гадоў наперад. А ў Градзянцы запрацавала магутная пільня, якая ажывіла эканоміку наваколляў.

У Жорнаўцы і Кухцічах Мікалай і Магдалена канчаткова «ахалопіліся», што прывяло іх да амаль поўнага разрыву з варшаўскай і нясвіжскай арыстакратыяй. Князь нават у Менску — жылі яны тут узімку ў «камяніцы» направа ад Чырвонага касцёла — хадзіў у простай вопратцы, не цураўся сялянскай ежы, з вяскоўцамі гаварыў, як і жонка, па-беларуску, запісваў фальклор. Але рамантычная натура Мікалая Радзівіла прагла актыўнага жыцця, подзвігаў. Добраахвотнікам удзельнічаў ён у балгарска-турэцкай вайне. І калі пачалася Першая сусветная, зноў пайшоў на фронт. Загінуў у лістападзе 1914 года ва Усходняй Прусіі. Цела князя спачатку даставілі ў Менск, а потым перавезлі ў Кухцічы. Стаяла яно ў металічнай труне, забальзамаванае і абстаўленае вянкамі, адзін з якіх кідаўся ў вочы надпісам: «Пухам Табе, князь, зямелька ў Тваёй Роднай Старонцы». Лічаць, што яго яшчэ ў Менску ўсклала беларуская паэтка Цётка.

Пасля смерці мужа жыццё княгіні Магдалены ўскладнілася: не стала надзейнай апоры і абароны, пасмялела мясцовая спаланізаваная шляхта, якая на-

стройвала сялян супраць «ненармальнай гаспадыні». А гаспадыня Жорнаўкі і Кухцічаў, пераадолеўшы меланхолію, стала нават задужа нармальна весці справы, бо яшчэ з дзяцінства добра ведала, на каго ёй можна пакласціся. Яе памагатымі сталі «галоўны распарадчык» Юстын Мурашка, юрыст, выпускнік Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Гаўрыла Царык, суседзі па сядзібах і аднадумцы — Вайніловічы і Гутэн-Чапскія. Справаводства ў канцылярыях уладанняў перавялі на беларускую мову. Паводзіла сябе княгіня сціпла, як і ўсе «беларускія грамадзяне», пры неабходнасці цярпліва стаяла ў чэргах, давала свой экіпаж дваровым дзяўчатам, каб тыя з’ездзілі ў праваслаўную царкву, якая знаходзілася ў чатырох кіламетрах ад Жорнаўкі.

## З лебядзіным крылом на вокладцы

Выдаўшы ў Варшаве адзіную дачку Людвіку за князя Чартарыйскага, Магдалена стала больш адкрыта ўдзельнічаць у дабрачыннай дзейнасці: выдаткоўвала грошы менскім лякарням і прытулкам для дзяцей ваенных уцекачоў, пецярбургскаму выдавецтву «Загляне сонца і ў наша ваконца», рэдакцыі газеты «Беларус». Немалыя сумы даставаліся літоўскім «адраджэнцам» у Коўне і Марыямпалі.

Сёння найбольш вядомай дабрачыннай акцыяй Магдалены Радзівіл лічыцца яе ўдзел у выданні зборніка «Вянок» Максіма Багдановіча. Справа выглядала наступным чынам. Рукапіс з вершамі Багдановіча пад загалоўкам «Кніжка выбраных вершаў» ніяк не мог пабачыць свет — не было грошай на публікацыю. І толькі ў 1913 годзе сродкі знайшлі. Вершы здалі ў друкарню. А падчас набору паступіла сума на выданне беларускіх кніг ад Магдалены Радзівіл. Каб прадэманстраваць княгіні дакладнасць мэтавага выкарыстання ахвяра-

вання і выказаць падзяку за дапамогу, было вырашана на загалоўнай старонцы кнігі змясціць знак «лебедзь», што азначаў герб Завішаў. Дарэчы, той жа знак можна ўбачыць яшчэ на двух кніжках беларускіх пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя — «Курганная кветка» Канстанцыі Буйло (яе сястра Міхаліна выкладала ў беларускай школе ў Жорнаўцы) і «Васількі» Ядвігіна Ш.

## Дык хто ж на партрэце?

Калі праца над артыкулам набліжалася да канца, мяне зноў пачалі мучыць сумненні: чаму Алесь Цыркуноў узяў за аснову свайго малюнка не бясспрэчныя фатаграфіі, а партрэт зусім іншых жанчын, зроблены невядомым аўтарам у Нясвіжы? А можа, гэты партрэт, як паведамляецца ў некаторых крыніцах, насамрэч вісеў і ў Кухцічах?

І тут у маёй памяці нечакана ўсплыў «кадр» 1993 года: спадарыня Эльжбэта Радзівіл-Тамашэўская сядзіць побач са мной, разглядае прывезеную з Койданава рэпрадукцыю і пацвярджае, што на ёй — Эльжбэта і Гелена, сёстры яе дзеда Ежы. Усе сумненні развеяліся.

## Апошнія гады жыцця

Мерны лад жыцця Магдалены Радзівіл стаў рэзка змяняцца пасля рэвалюцыйных падзей 1917 года. Бальшавікам удалося настроіць супраць княгіні частку мясцовых сялян. У яе маёнтках пачаліся ўтоеныя і яўныя рабаванні, прытым асабліва старалася дробная шляхта. Тэрор узмацніўся з прыходам у канцы 1917 года польскіх атрадаў пад камандаваннем генерала Доўбар-Мусніцкага. Знамянальна, што, як высветлілася з успамінаў Паўліны Мядзёлкі, ад нападаў княгіню тады абараняў раскватараваны ў Жорнаўцы атрад капітана Скары-

ны — таго самога нашчадка беларускага першадрукара, пра якога нядаўна ішла гутарка ў «СБ». З прыходам немцаў жыццё Магдалены Радзівіл яшчэ больш ускладнілася, і ў канцы 1918 года яна, шчодра ўзнагародзіўшы тых сялян, якія добра працавалі, назаўжды пакінула беларускія землі. Спачатку пасялілася ў Варшаве, але потым, калі ў польскім друку пачалося цкаванне за тое, што адно з сваіх памяшканняў яна здала ў арэнду яўрэям, пераехала ў Каўнас, дзе сёй-той з кіраўнікоў маладой краіны памятаў, што Магдалена ахвяравала грошы і на літоўскае нацыянальнае адраджэнне.

Нарэшце ў 1932 годзе расчараваная і стомленая жыццём Магдалена Радзівіл апынулася ў манастыры сясцёр дамініканак у горадзе Фрыбургу (Фрыбуры) ў Швейцарыі, дзе ціха сканала 6 студзеня 1945 года. Рукапісаў пасля яе ніякіх не засталося, але надмагільная пліта з пералікам усіх заслуг княгіні, у тым ліку і перад Беларуссю, захавалася. Гавораць, праўда, што зараз знойдзены дзённік Магдалены Радзівіл.

Магдалена Радзівіл, «беларуская шляхцянка», як звала сябе яна сама, годная таго, каб успомніць яе добрым словам, увекавечыць памяць. Нельга забываць і яе мужа-героя — хоць бы ў Кухцічах, дзе захавалася (у пасёлку Першамайскі) частка будынкаў сядзібы. А зараз заклікаю чытачоў «СБ» яшчэ раз супаставіць партрэты з фотаздымкамі: адзін і той жа твар на іх ці не?

*СБ. Беларусь сегодня, 2011, 16 крас.*

*Ірына ЗВАРЫКА*

# «ГАЛЕРЭЯ» ЗАВІШАЎ У МУЗЕЙНЫХ ЗБОРАХ БЕЛАРУСІ

У Беларусі вялікую рэдкасць уяўляюць комплексы партрэтаў прадстаўнікоў аднаго і таго ж роду, якія захаваліся да нашага часу. Першую пазіцыю з такіх збораў займаюць партрэты роду Радзівілаў з былой радавой рэзідэнцыі ў Нясвіжы. Другая пазіцыя, *хоць і з вялікім адрывам*, належыць партрэтнаму збору прадстаўнікоў дому Завішаў герба «Лебедзь»[a]. Пераважная большасць гэтых палотнаў захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь — іх дзевяць[1]. Тры партрэты знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

На дзевяці партрэтах з Гістарычнага музея выяўлены сем прадстаўнікоў роду:

**Ян** (каля 1550–1626), падкаморы лідскі, ваявода мсціслаўскі, ваявода віцебскі, старэйшы з трох братоў (Яна, Юрыя, Андрэя) — стваральнікаў магнацкай лініі Завішаў[2]. Паясная выява на партрэце невядомага мастака XIX ст., копія з больш ранняга палатна;

**Мікалай** (1591?–1647), кашталян віцебскі, сын Яна. Паясная выява партрэтнай копіі невядомага мастака XIX ст. з больш ранняга палатна;

**гіпатэтычная выява** гэтай жа асобы, Мікалая Завішы (1591?–1647) на арыгінальным палатне 1-й паловы XVII ст. з былой галерэі Радзівілаў у Нясвіжы. Партрэт у 2/3 росту;

**Андрэй Казімір** (каля 1614–1678), староста мінскі, чачэрскі, слонімскі, пісар вялікі ВКЛ, унук Андрэя, пратапласта малодшай галіны магнацкай лініі, з якой выйшла Магдалена з Завішаў Радзівіл (1861–1945).

Паясная выява, аўтарская (?) рэпліка невядомага мастака XVII ст;

**Ігнацы** (1696–1738), мечнік ВКЛ, падкаморы ВКЛ, надворны маршалак ВКЛ, стараста мінскі, бабруйскі, суміліскі, унук Андрэя Казіміра, сын Крыштафа Станіслава (1666–1721), аўтара вядомых мемуараў. Са смерцю Ігнацыя згасла старэйшае адгалінаванне магнацкай лініі роду. Паясная выява, капійная версія невядомага мастака XVIII ст.;

**Крыштаф Тэабальд** (1706?–1762), стараста любаніцкі і старадубаўскі, паручнік петыгорскі, прадстаўнік малодшага адгалінавання роду, прапрадзед Магдалены з Завішаў Радзівіл. Яго бабка, швагерка Андрэя Казіміра, прынесла ў дом Завішаў маёнтак Кухцічы. Партрэт у рост. Невядомы мастак другой паловы XVIII ст.;

**партрэт гэтай жа асобы, Крыштафа Тэабальда** (?–1762) пэндзля мастака Яна Мальца (?–?), напісаны як копія з невядомага нам арыгінала ў 1844 г. у маёнтку Сваротва (цяпер Баранавіцкі раён Брэсцкай вобласці), які на той час належаў Незабытоўскім. Пакаленны партрэт;

**Барбара з Завішаў Радзівіл** (1690–1770), дачка ваяводы мінскага Крыштафа Станіслава і Тэрэзы Розы з Тышкевічаў, сястра Ігнацыя, жонка ваяводы наваградскага Мікалая Фаўстына Радзівіла (1688–1746). Паясны партрэт невядомага мастака XVIII ст. з серыі «У лаўровым вянку», стварэнне якой ініцыявала Ганна Кацярына з Сангушкаў Радзівіл (1676–1746);

**Ганна з Ліпскіх Завіша** (1770–1802), дачка ленчыцкага кашталяна, першая жонка Казіміра Завішы, каралеўскага шамбеляна, прабабка Магдалены з Завішаў Радзівіл. Пагрудны партрэт невядомага мастака, каля 1802 г.

На партрэтах, якія захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, выяўлены:

**Андрэй Казімір** (каля 1614–1678), арыгінал невядомага мастака XVIII ст. Паясны партрэт з датай «1676», аналагічны палатну з Нацыянальнага гістарычнага музея;

**Ігнацы** (1696–1738), арыгінал невядомага мастака XVIII ст. з надпісам на белай бандэролі; блізкі да партрэта з Нацыянальнага гістарычнага музея. Паясная выява;

**Альжбета з Заранкаў-Гарбоўскіх** (?–?), дачка ваўкавыскага падчашага, другая жонка Крыштафа Тэабальда Завішы (1706?–1762), старасты любаніцкага і старадубаўскага, паручніка петыгорскага. Невядомы мастак сярэдзіны XVIII ст. Партрэт у рост.

Такім чынам, на сённяшні дзень на Беларусі вядома дванаццаць палотнаў з партрэтнымі выявамі васьмі прадстаўнікоў дому Завішаў.

Партрэты прадстаўленай вышэй «галерэі» не належалі да аднаго збору: штосьці знаходзілася ў радавой галерэі ў Кухцічах, штосьці — у іншых сядзібах, некаторыя выконваліся для культавых інтэр’ераў. Прыведзены спіс сведчыць, што шэраг партрэтаў мае паўтор альбо ў аўтарскіх рэпліках, альбо ў больш позніх копіях іншых мастакоў. Капіраванне — звычайная практыка мінулых стагоддзяў. Да прыкладу, партрэты Яна і Мікалая Завішаў, якія выкананы ў адной і той самай манеры і пісаліся мастаком як парныя, а магчыма, для больш маштабнага комплексу[b)], маюць паўтор на палотнах са збору Нацыянальнага мастацкага музея імя М. К. Чурлёніса (Каўнас, Літва): гэта адна і тая ж партрэтная пара[3]. Пераважная большасць палотнаў «галерэі» Завішаў трапіла ў калекцыю Гістарычнага музея на пачатку 1920-х гг., хутчэй за ўсё, разам з прадметамі,

канфіскаванымі з нацыяналізаваных сядзіб[4]. Верагодна, большасць партрэтаў, якія нас цікавяць, вывезены з завішанскіх маёнткаў — Кухцічы, Жорнаўка. Не выключаны і дом у Мінску[c)]. Что да каўнаскіх партрэтаў, мы не маем аніякіх звестак пра час і крыніцу іх паступлення ў гэты музей, пра аўтара і час напісання. Бясспрэчным, на наш погляд, застаецца факт, што з'яўленне іх у Каўнасе нейкім чынам звязана з дзейнасцю Магдалены з Завішаў Радзівіл, якая знаходзілася ў Коўне (Каўнасе) ад 1922 г. да канца 1920-х гг.[5].

Партрэт Андрэя Завішы з Гістарычнага музея выглядае копіяй, выкананай з выявы, што захоўваецца ў Мастацкім музеі, прычым, зробленай так, каб упісацца ў фармат партрэтаў Яна і Мікалая Завішаў, пра што сведчаць іх блізкія памеры: 94×67 см (Ян), 96×68,5 см (Мікалай), 94×67 см (Андрэй). Партрэт Андрэя Завішы, на якім пазначана дата «1676», з Мастацкага музея значна большы: 135×87 см. Апроч таго, на трох партрэтах з гістарычнага музея аднолькавым з'яўляецца фон, на якім пад выявай запісаны інфармацыйны тэкст, — ён цёмны. На партрэце з Мастацкага музея фон надпісу белы. Да таго ж, інфармацыйны тэкст на трох згаданых партрэтах запісаны ў пяць радкоў, на партрэце з датай — у шэсць.

Партрэт Ігнацыя Завішы таксама выконваўся двойчы: як арыгінал і як пазнейшая копія. Партрэт з Нацыянальнага мастацкага музея ў адрозненне ад таго, што захоўваецца ў Гістарычным музеі, мае пад выявай разгорнутую белую бандэроль з інфармацыйным тэкстам у тры радкі. Ён выконваўся для аднаго з інтэр'ераў базыліянскага манастыра ў Лядах, фундатарам якога былі Ігнацы Завіша, яго жонка, сёстры і маці[d)]. Тэкст у тры радкі на гэтай бандэролі (*арфаграфія арыгінала*): «Ignacy Hrabia na Baksztach Berdyczewie i Zawiszynie

kieżgayło Zawisza / Marszałek Nadworny W. X. L. Minski Bobruyski Sumiliski Starosta / IeneralMayor Woysk Polskich Fundator Klasztoru Ladanskiego. R. 1732» («Ігнацы Граф на Бакштах Бердычаве і Завішыне кежгайла Завіша Маршалак Надворны В.К.Л. Мінскі Бабруйскі Суміліскі Стараста Генерал-Маёр Войск Польскіх Фундатар кляштара Ляданскага. Г. 1732». *Пераклад — І. З.*). Гэты партрэт зафіксаваны на чорна-белым фотаздымку, зробленым вядомым даследчыкам І. А. Сербавым (1871–1943) паміж 1908 і 1914 гг., падчас яго супрацоўніцтва з царкоўна-археалагічным музеем пры Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэце. На гэтым фота партрэт у даволі шырокай раме знаходзіцца пад адкрытым небам, пастаўленым на снег, прыслонены да драўлянай балюстрады; за рамай, у перспектыве бачны ствалы высокіх ліп. Пад фотавыявай знізу рукою Сербава зроблены подпіс (*арфаграфія арыгінала*): «Портретъ Игнатія Завиши / в Ляданскомъ монастыре / Игуменск. уѣзда». У гэты ж самы час і ў тым самым месцы І. Сербаў зафатаграфаваў партрэт Марцыбэлы Агінскай (?–1760), жонкі Ігнацыя Завішы, парны да партрэта мужа. На ім — маладая кабета ў развароце 3/4 управа ад гледача, у дэкальтаванай сукенцы, прыкрытай мантыяй з гарнастаевым падбоем, з партрэтным медальёнам каля выраза сукенкі, з падоўжанай завушніцай і бліскучым упрыгажэннем у форме пяціпялёсткавай кветкі ў прычосцы. Белая бандэроль пад выявай ідэнтычна той, што на партрэце яе мужа. Трохрадковы надпіс на бандэролі (*арфаграфія арыгінала*): «Marcybella z Oginskich Woiewodzianka Wileńska Hrabinia na Baksztach / Berdyczewie i Zawiszynie Zawiszyna Marszalkowa Nadworna W. K. L. Min / ska Bobruyska Sumiliska Staroscina, Fundatorka Klasztoru Ladanskiego. R. 173[2]» (*апошняя лічба даты на фота*

*размыта*), («Марцыбэла з Агінскіх Ваевадзянка віленская Графіня на Бакштах Бярдычаве і Завішыне жонка Завішы Маршалка Надворнага В. К. Л. Мінскага Бабруйскага Суміліскага Старасты, Фундатарка Кляштару Ляданскага. Г[од]. 173[2]». *Пераклад — І. З.*). Хоць гэта дзве асобныя фотакарткі, аднак яны ствараюць уражанне, што партрэты пры фатаграфаванні стаялі побач, прыслоненымі да адной і той самай драўлянай балюстрады будынка на тэрыторыі манастыра ў Лядах. Партрэты Ігнацыя, як адзін, так і другі, захаваліся да нашага часу, выява ж яго жонкі цяпер існуе толькі на фотаздымку з калекцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь[e)].

Вартай увагі з'яўляецца яшчэ адна акалічнасць, звязаная з партрэтам Ігнацыя Завішы. Бацька Ігнацыя, Крыштаф Станіслаў Завіша (1666–1721) у канцы жыцця напісаў мемуары, выдадзеныя ў Варшаве ў 1862 г. пад рэдакцыяй і з каментарамі гісторыка Юліяна Барташэвіча (1821–1870)[6f)]. Варшаўскае выданне прафінансаваў нашчадак Крыштафа Станіслава, гісторык, археолаг Ян Казімір Завіша (1810–1887), бацька Магдалены Завішанкі Радзівіл. У кнізе змешчаны графічны партрэт аўтара ўспамінаў, выкананы вядомым графікам Максіміліянам Фаянсам (1827–1890). Але з літаграфіі, змешчанай у кнізе, на чытача глядзіць двайнік Ігнацыя: адны і тыя ж рысы твару, прыпухласць шчок, кароткія пастрыжаныя вусікі канцамі ўверх; прыхаваная ўсмешка на вуснах, высокі лоб, валасы, зачасаныя назад; адна і тая ж форма маршалкаўскайляскі (жазла); ордэнская стужка праз плячо, да якой знізу прышпілены знак ордэна Белага Арла, а на кунтушы пад стужкай — зорка ордэна. Зусім відавочна, што мастак, ствараючы гравюру, меў перад вачыма партрэт Ігнацыя, сына аўтара мемуараў. Відавочна і тое, што прататыпам для

выявы мог паслужыць той партрэт Ігнацыя, што цяпер захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі. На гэта ўказвае пазіцыя левай рукі спартрэтаванага. На названым палатне кісць рукі, што трымае тронак шаблі, і эфес шаблі павёрнуты ўнутр да корпуса, засланяючы частку пояса. На палатне, што выконвалася для кляштара ў Лядах, а цяпер знаходзіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, кісць рукі і эфес шаблі развернуты ў процілеглы бок і адсунуты ад корпуса. Магчыма, існавала яшчэ іншая копія, нам невядомая, але блізкая да партрэта без бандэролі. У любым выпадку, гэтая акалічнасць дазваляе меркаваць, што ў часе, калі выконвалася графічная рэпрадукцыя для кніжнага выдання, партрэта Крыштафа Станіслава Завішы не існавала. Ці ён існаваў, але на той час быў страчаны? Так ці інакш, у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь знаходзіцца алейны партрэт сына мінскага ваяводы, які, хутчэй за ўсё, і паслужыў узорам для стварэння графічнага партрэта яго бацькі, мінскага ваяводы Крыштафа Станіслава Завішы, змешчанага ў кнізе яго ўспамінаў.

Маштабным і маляўнічым выглядае партрэт старасты любаніцкага і старадубаўскага Крыштафа Тэабальда Завішы, зроблены ў рост невядомым мастаком XVIII ст. Гэта сапраўдны парадны партрэт. Згодна з радаводам, спартрэтаваны — стрыечны пляменнік Крыштафа Станіслава, кузэн Ігнацыя Завішы, пра-пра-прадзед Магдалены Радзівіл. Гэта адзіны з партрэтаў, на якім прысутнічае радавы герб — «Лебедзь». Сямірадковы надпіс пад гербам сведчыць (*арфаграфія арыгінала*): «Thubald Krzystof Rózyc Kierzgal / lo Grabia na Bksztach i Zyrmo / nach zawisza Stta: Sądow Staros Lubonicki Porucznik Petyhorski Uma: / w Dworcu 56 Lat Wieku Swego / Pochowany w Minsku u / Bernardynow w /

Swoim Sklepie» («Тубальд Крыштаф Ружыч Кежгайла, граф на бакштах і Жырмунах Завіша, староста судовы, староста Любаніцкі, паручнік Петыгорскі. Памёр у Дварцы 56 гадоў веку свайго. Пахаваны ў Мінску ў бэрнардынаў у сваім склепе». *Пераклад — І. З.*). З напісанага вынікае, што Тэабальд быў пахаваны ў радавой Завішанскай капліцы (склепе) касцёла св. Язэпа мужчынскага бернардынскага кляштара ў Мінску, дзе, як сведчаць успаміны Крыштафа Станіслава, пачынаючы ад 1670 г., знаходзіліся магілы яго продкаў і дзе аўтар, мінскі ваявода «у 1709 годзе ў гонар вечнай аб іх памяці… паставіў камень з надмагільнай плітой»[7].

Партрэт Крыштафа Тэабальда Завішы, напісаны ў 1844 г. мастаком Янам Мальцам (?–?) у Сваротве, мае надпісы з абодвух бакоў. Надпіс справа ўверсе на жывапісным полі, чатыры радкі: «KRYSZTOF GERGAYŁO NA BAK / SZTACH ZAWISZA STAROSTA STARODU / BOWSKI I LUBONICKI ZONA 1. GRA / BOWSKA 2. ZARANKÓWNA» (Крыштаф Гергайла на Бакштах Завіша староста старадубаўскі і любаніцкі. Жонка 1. Грабоўская 2. Заранкоўна»). Надпіс з адваротнага боку ў два радкі: «SWOROTWA: 1844: R[u] FEBRUAR: / 1. DNIA. KOP: P. JANA MALCA» («Сваротва 1844 г. Лютага 1 дня. Коп[ія] П[ана] Яна Мальца». *Пераклад — І. З.*). Як вынікае з надпісу на адваротным баку палатна, мастак ствараў копію. На наш погляд, гэта адвольная варыяцыя параднага партрэта Крыштафа Тэабальда XVIII ст.: дакладна паўтораны твар, ракурс, амаль тая ж поза... Чаму ў маёнтку Якуба Незабытоўскага[8] мастак піша копію партрэта Крыштафа Тэабальда Завішы? Хто гэты капііст? Нам не ўдалося знайсці мастака з такім імем — Jan Malec — ні ў кніжных даведніках, ні праз інтэрнэт.

Партрэт жонкі Крыштафа Тэабальда, Альжбеты з Заранкаў-Гарбоўскіх (?–?) створаны як парны. Гэты факт адкрыўся ў 2001 г., калі ішла падрыхтоўка да адкрыцця выставы нацыянальнага маштабу «Гістарычны партрэт Вялікага Княства Літоўскага» (май 2002 — май 2003, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі). Памеры палотнаў (209,5×139 см — партрэт Тэабальда; 208×138 см — партрэт Альжбеты), іх кампазіцыя, месца знаходжання гербаў і надпісаў, стыль іх выканання (абодва ў авальнай рамцы) не пакідалі сумнення, што партрэты, якія да гэтага часу знаходзіліся ў сховішчах розных музеяў, пісаліся як парныя для аднаго і таго самага інтэр’ера. Якога? Сказаць цяжка. На гэтым маштабным палатне — дама ў пышнай сукенцы з пышнымі валанамі на рукавах і кветкай ружы на дэкальтэ. Фонам яе постаці з’яўляецца архітэктурна-паркавы ансамбль[g)]. Справа ўверсе, на лініі пляча спартрэтаванай — выява герба «Корчык», пад якім надпіс у чатыры радкі: «ELZBIETA Z H… / …RANKOWNA ZAWISZYNA / SĄDÓW STAROD LUBO / PORUCZNIKOWA PETYHORSKA» («Эльжбета з Г[арбоўскіх] [За]ранкоўна Завішына судовая [жонка старасты] старад[убаўскага], люба[ніцкага], паручніка петыгорскага». *Пераклад — І. З.*).

Выява маладой мілавіднай кабеты з вялікімі сумнымі вачыма арэхавага колеру, з пышна ўзнятымі па модзе канца XVIII ст. валасамі, з падвойнай нізкай караляў на адкрытай шыі і камеяй з мужчынскім профілем справа на сукенцы — партрэт Ганны з Ліпскіх, дачкі ленчыцкага кашталяна, жонкі генерала Казіміра Завішы, сына Крыштафа Тэабальда, прабабкі Магдалены Завішанкі Радзівіл. На палатне справа зверху — герб «Граблі» роду Ліпскіх і дванаццацірадковы надпіс пад ім: «Anna Johanna z Grabian / Lipskich Zawiszyna G.M. / W Ross.

Umarla w / Kuchcicach w Ru 1802. Mięca 7bra: 26 / Dnia Miawa Lat 32 / Wieku Swego Po / grzebiana w Do / brach Swoich w ka / plicy Parafij Uzdzien / skiej Namogilkach. Zosta / wila Czworo Dzieci Wale / rja Cecylia Zofia i Ka / zimierza». Надпіс паведамляе дакладную дату смерці — 26.07.1802, колькасць пражытых гадоў (32 гады), імёны чатырох пакінутых дзяцей (Валерыю, Цэцылію, Сафію, Казіміра), месца пахавання (капліца ў Кухцічах, якая на той час з’яўлялася філіяльнай капліцай уздзенскага парафіяльнага касцёла[9]). Шлюб Валерыі, пазначанай у гэтым спісе, з яе кузэнам Тадэвушам дазволіў працягнуць род.

Наколькі поўнай была ўяўная галерэя роду Завішаў? Партрэты якіх яго прадстаўнікоў, апроч вышэйназваных, былі напісаныя? Якія з жывапісных партрэтаў знаходзяцца па-за межамі Беларусі? У цяперашні час можам дакладна назваць яшчэ адзін партрэт — Яна Завішы (1597–1661), віленскага біскупа (1656–1661), напісаны невядомым мастаком XVII ст. Ён знаходзіцца ў Нацыянальным музеі Літвы, куды трапіў са збору былога музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

Амаль усе прадстаўленыя вышэй творы жывапісу, за выключэннем гіпатэтычнай выявы Мікалая Завішы, партрэтаў Барбары Завішанкі Радзівіл і біскупа віленскага Яна, ад пачатку 1920-х гг. знаходзіліся ў Беларускім дзяржаўным музеі (БДМ), спадкаемцам якога з’яўляецца сучасны Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь. Яны, названыя партрэтамі мінскіх ваяводаў, былі сярод экспанатаў, што ў 1929 г. выклікалі злавесную крытыку спецкамісіі Наркамасветы[10]. У часе Другой сусветнай вайны партрэты (апроч палатна з выявай Ганны Ліпскай) знаходзіліся ў Мінску пад апекай Гістарычнага музея. У красавіку 1944 г. яны былі вывезены ў Германію, адкуль у 1948 г. рознымі шляхамі зноў вярнуліся ў Мінск…

## Каментарыі

[a)] Прадстаўнікі гэтага роду падзяліліся на некалькі асобных груп згодна з прынятымі імі гербамі. Існавалі Завішы гербаў «Еліта», «Сас», «Суліма», «Задора» і іншых[11].

[b)] Фармат і характар напісання выклікае выразныя асацыяцыяцыі з партрэтнай генеалогіяй Сапегаў, створанай на пачатку XVIII ст. для касцёла ў Кодані (цяпер — горад на тэрыторыі Польшчы).

[c)] Нагадаем, што Завішы мелі не толькі родавыя сядзібы — у Кухцічах, Жорнаўцы, напэўна, у іншых мясцовасцях на тэрыторыі сучасных Літвы, Украіны і Польшчы, але таксама апартаменты для сталага пражывання: ў Мінску, Варшаве, Коўне, хутчэй за ўсё, у Вільні. Кожны з такіх адрасоў патрабаваў, у той ці іншай паўнаце, прысутнасці выяваў продкаў.

[d)] Мастацтвазнаўца Ю. А. Піскун выказвае меркаванне, што аўтарам гэтага партрэта Ігнацыя Завішы з'яўляецца той самы мастак, які стварыў абразы «Пакроў» і «Мікола» са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь[12].

[e)] Варта адзначыць, што памяць пра жонку Ігнацыя захавалася да нашага часу ў досыць нечаканым увасабленні. Р. І. Аўчыннікава, краязнавец з вёскі Лугавая Слабада, калісьці прыпісанай да фальварка Марцыбэлішкі (цяпер — саўгас «Волма»), Марцыбэлай Агінская клікала сваю котку.

[f)] У беларускім перакладзе кніга пабачыла свет у 2011 г., у выдавецтве Віктара Хурсіка[13]. Гэта каштоўная крыніца фактаў і падрабязнасцей, звязаных з палітычнымі падзеямі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, з жыццём Мінска канца XVII — пачатку XVIII ст. Вось паказальны прыклад да сказанага. Вядома, што цяперашняя вуліца Камсамольская ў Мінску ў XVIII ст. называлася Фэліцыянаўскай, бо ў езуіцкім касцёле (цяпер — кафедральны касцёл у імя Найсвяцейшай Панны Марыі, або Катэдра), куды вяла гэтая вуліца, захоўваліся рэліквіі святога Фэліцыяна. Аднак мала хто ведае, што з'явіліся гэтыя рэліквіі ў Мінску дзякуючы Крыштафу Станіславу Завішы, які ў часе свайго замежнага падарожжа

ў 1700–1701 гг. атрымаў іх у Рыме ад папы Клеменса XI. У лютым 1713 г. рэліквіі былі перанесены з базыліянскай царквы (цяпер — адноўлены будынак каля Мінскай ратушы) у езуіцкі касцёл[14].

[g)] Мастацтвазнаўца Т. А. Карповіч лічыць, што фонам, на якім выяўлена спартрэтаваная, з’яўляецца парк сядзібы Таўкачэвічы[15] (цяпер — вёска Уздзенскага раёна Мінскай вобласці). Гэта слушнае меркаванне, тым не менш, патрабуе ўдакладнення. У некаторых крыніцах існуе блытаніна прозвішчаў Гарбоўскія (польск. Horbowscy) і Грабоўскія (польск. Grabowscy). Першай жонкай Тэабальда Завішы была Кацярына Грабоўская герба «Тапор». Альжбета з Гарбоўскіх Заранкаў герба «Корчык» была другой яго жонкай. Яна і прынесла Таўкачэвічы разам з Хатлянамі як пасаг у дом свайго мужа. Іх дачка Барбара (?) Завішанка, выходзячы замуж за прадстаўніка роду Грабоўскіх, прынесла гэтыя маёнткі ў іх дом[16].

## Крыніцы


1 Гістарычны партрэт Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стагоддзяў. Каталог выставы (май 2002 — май 2003). — Мн. : Юніпак, 2003.

2 Krzysztof Pietkiewicz. Kieżgajłowie i ich latyfundium do połowy XVI wieku. — Poznań. 1982. — S. 49.

3 Marija Matušakaitė. Portretas XVI–XVIII a. lietuvoje. — Vilnius, 1984. — S. 94, 95.

4 А. Гужалоўскі. Музеі Беларусі (1918–1941 гг.). — Мн. : НАРБ, 2002. — С. 2, 147.

5 Oleg Łatyszonek i Andrzej Zaręba. Radziwiłłowa z Zawiszów : Polski Słownik biograficzny. — Warszawa, etc. — T. XXXVIII. — S. 398, 399.

6 Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego (1666–1721). — Warszawa, 1862.

7 Ibid. — S. 8. (Пераклад: Успаміны Крыштафа Завішы ваяводы мінскага (1666–1721). — Мн. : Выдавец Віктар Хурсік, 2011. — С. 86, 87.)

[8] Aftanazy. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. — T. 2. — S. 369.

[9] Вячаслаў Курачкін. Цэнтр гуманітарных ініцыятыў : пакланіцца і рабіць // Мастацтва. — 2002. — № 9. — С. 35. (Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. — Wilno, 1912. — S. 181.)

[10] А. Гужалоўскі. Музеі Беларусі… — С. 46.

[11] Kasper Niesiecki. Herbarz polski. — Lipsk, 1845. — T. X. — S. 108, 114.

[12] Юрый Піскун. Невядомы мастак. Партрэт Ігнацыя Казіміра Завішы. Алей. 1738–1739 // Мастацтва. — 1986. — № 10. — С. 32.

[13] Успаміны Крыштафа Завішы ваяводы мінскага (1666–1721). — Мн. : Выдавец Віктар Хурсік, 2011.

[14] Pamiętniki… — S. XXXI. (Успаміны… — С. 39.)

[15] Т. Карпович. Портрет Елизаветы Завиши из фондов Национального художественного музея Республики Беларусь // Бюлетэнь Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. — 2002. — № 2. — С. 15.

[16] Aleksander Jelski. Chotlany // Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. — T. I : Aa — Dereneczna. — Warszawa, 1880. — S. 638.

*Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага зборніка*

# ЛІСТЫ, УСПАМІНЫ, РЭДКІЯ ПУБЛІКАЦЫІ[1]

*Магдалена РАДЗІВІЛ*

## ЛІСТ У ГАЗЕТУ «BEŁARUS» АБ КНІЖЦЫ ДА НАБАЖЭНСТВА НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ «БОГ З НАМІ»

Шаноўны Пане!

Сардэчна дзякую за прысланую мне пекную кніжку да набажэнства ў беларускай мове.

Друк дасканалы, абразкі пекныя, а збор малітваў такі, як трэба. Паказвала яе шмат каму, і ўсім падабалася.

Гэткая кніжка пачынае новую эру ў нашай народнай гісторыі і памятка яе і аўтара яе пройдзе да патомкаў.

Аддаў Пан аграмадную ўслугу сваім братам-беларусам, і Пан Бог за гэта нагародзіць.

Прашу прыняць паноўную маю падзяку і словы паважання і зычлівасці.

*М. Радзівіл*

*Bełarus, 1915, 17 ліп.*

[1] Друкуюцца з захаваннем асаблівасцей аўтарскага стылю.

*Андрэй УНУЧАК, Валянціна ЯНОЎСКАЯ*

## ЛІСТ КНЯГІНІ МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ[1]

Ваше Превосходительство!

Я Вам говорила, что мы католики, парии. В Минской же губернии наша участь ещё хуже, мы несчастные мыши, которых отвратительный жидовский кот ловит, отпускает на верный залог и снова хватает по своему желанию, вопреки всякому закону. Даже ирокезы держат данное слово и к ним следовало бы послать Гирса[2] цивилизоваться. Всё, что Вы мне сказали здесь, находится в противоречии с тем, что творится в Минске; я не обвиняю Вас в двоедушии, но я упрекаю Вас в назначении злого человека, руководствующегося ненавистью, питаемой им к жертвам, выданным ему со связанными руками и ногами. Вы заверили меня в полной свободе во всем, что касается постройки католических церквей. Только что вернувшись в Минск, я встретила ревностного священника-белоруса Астрамовича[3], Аннопольского настоятеля, вновь строящего (с надлежащего разрешения) свою церковь, превратившуюся в развалины. Г. Гирс придирается к нему, т. к.

---

[1] Ліст адрасаваны на імя Міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі Мікалая Маклакова (1871–1918).

[2] Гірс Аляксей (1871–1958) — мінскі губернатар у 1912–1915 гг., вядомы сваёй антыкаталіцкай палітыкай. Не прызнаваў існавання асобнай беларускай нацыі.

[3] Астрамовіч Аляксандр (1878–1921) — каталіцкі святар, беларускі паэт (літ. псеўданім Андрэй Зязюля). Актыўны прыхільнік увядзення беларускай мовы ў касцельнае набажэнства. Сталы карэспандэнт газет «Наша Ніва», «Беларус», «Вольная Беларусь», «Крыніца» і інш. Аўтар паэтычнага зборніка «З роднага загону» (1913, другое выд. 1931).

новое здание на 10 см шире прежнего. Священнику пришлось затратиться на составление планов обоих зданий, чтобы оправдаться в преступлении, подвергающем государство опасности. Я собираю фарсы г. Гирса для статьи в заграничном издании относительно того, как понимается свобода совести, великодушно дарованная Его Императорским Величеством своим подданным. Турция потрёт себе руки от удовольствия, потому что в ней христиан мучают дикие народы, а здесь — представители правительства.

История кс. Эйсмонта[1], другого белоруса, будет не менее забавной. А квинтэссенция это то, что я, представительница родов Радзивилл и Завиша-Кержгайлло, поселившихся уже 400 лет в крае, должна обращаться за протекцией к министру иностранных исповеданий. Хотя наши семьи верно служат русскому правительству, между тем как православные постоянно стараются взрывать своих государей, а в Минске бомба была брошена дочерью русского православного генерала[2]. Не от католиков должен охранять себя Император, от привилегированных, а не угнетённых.

Примите Ваше Превосходительство выражение моего уважения.

*М. Радзивилл.*
*1913 г.*

*Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у С.-Пецярбургу, ф. 821, воп. 150, спр. 168, арк. 7—7 адв. Друкуецца ўпершыню.*

---

[1] Эйсмант — ?

[2] Відаць, маецца на ўвазе ўдзел Аляксандры Ізмайловіч (1878–1941), дачкі генерала артылерыста Адольфа Ізмайловіча, у замаху на мінскага губернатара П. Курлова 14 студзеня 1906 г. Падчас замаху бомбу ў губернатара кінуў І. Пуліхаў (не выбухнула), а А. Ізмайловіч страляла з пісталета па мінскім паліцмайстары Д. Нораве (няўдала).

*Віктар ХУРСІК*

# УСПАМІНЫ МАГДАЛІНЫ ЗАВІШЫНАЙ (КРАСІНСКАЙ, РАДЗІВІЛ)

*Я нарадзілася ў 1861 годзе, г. зн. на пачатку паўстання ў Польшчы і пішу гэтыя ўспаміны праз шэсцьдзесят гадоў у час рускай рэвалюцыі, якая пачалася ў 1917 годзе і якая, здаецца, працягнецца яшчэ доўга. Між тым я была сведкам беспарадкаў, якія адбыліся пасля вайны ў Маньчжурыі.*

*К моманту майго нараджэння яшчэ існавала прыгоннае права, большая частка слуг маіх бацькоў былі ў мінулым прыгоннымі і адной з задач, якія я стаўлю перад сабой пры напісанні гэтых успамінаў, з'яўляецца выпраўленне агульнапрынятага ўяўлення пра прыгоннае права. З гэтай нагоды распаўсюджваецца столькі экстравагантных версій, што мне хацелася б прадставіць карціну нашай краіны такой, якой я яе ведала ў той час, калі яшчэ не існавалі гэтыя паклёпніцкія версіі.*

*Я вырасла ў Польшчы, дзе прыгоннае права было адменена яшчэ ў эпоху Напалеона, але паколькі сяляне не атрымалі ніякага забеспячэння, адносіны да іх мала змяніліся. Яны працягвалі жыць у халупах і карысталіся землямі, якія належалі нам законна, яны плацілі натурай, працай, кожны быў павінен адпрацаваць некалькі дзён на тыдні на нашых фермах. Але мой бацька не быў палякам, і ён жыў у Польшчы толькі таму, што мая маці, сама палячка, думала пасяліцца на землях свайго мужа ў Белай Русі.*

*Сям'я майго бацькі Завішы-Кежгайлы была родам, уласна, з Літвы, адкуль яна пераехала ў Белую Русь пасля заваявання гэтай краіны вялікімі князямі Літвы ў XIII стагоддзі. Паколькі ўся гэта мясцовасць*

*з’яўлялася часткай Вялікага Княства Літоўскага і буйныя ўласнікі ў большасці паходзілі з Літвы, мой бацька лічыў сябе літвінам, хаця і не размаўляў на літоўскай мове і, наколькі мне вядома, ніколі не быў у гэтай краіне, за выключэннем Вільні. Яднанне гэтых дзвюх нацыянальнасцей, якія размаўлялі на абсалютна розных мовах, было глыбокім, і было цяжка вызначыць межы кожнай з краін...*

*Пераклад з французскай Веры Дзябольскай.*
*Друкуецца ўпершыню.*

Гэта фрагмент перакладу першай старонкі рукапісу ўспамінаў Магдаліны Завішынай (Красінскай, Радзівіл). Усяго ён змяшчае 27 старонак рукапіснага тэксту напісанага пяром чарнілам на лістах агульнага сшытка ў лінейку, тэкст арыгінала — на французскай мове.

Нават па невялічкім урыўку тэксту, змешчанага вышэй, можна зрабіць выснову пра вялікую значнасць успамінаў Магдаліны для айчыннай гістарыяграфіі. Бадай упершыню мы сустракаем дакумент, які сведчыць пра погляды буйной землеўласніцы на сваё паходжанне, на адносіны да прыгону, яго значэнне для яе роду і ўсёй краіны. На далейшых старонках, праз лёсы служак і сялян двара Завішаў, яна апісвае вынікі адмены прыгоннага права. Апісанні гадоў дзяцінства, нораваў бацькоў і бліжэйшага атачэння, няпростых адносін з сястрой Марыяй і без мастацкага ўвасаблення заварожваюць нечаканымі паваротамі жыццёвых сюжэтаў.

Дакумент, пра які ідзе гаворка, цяжка аднесці да мемуараў з-за адносна невялікага прамежку часу, пра які распавядае аўтарка, дый заканчваюцца яны абрывачным шматкроп’ем. Аднак успаміны Магдаліны Янаўны Завішынай безумоўна з’яўляюцца яркім абразком з жыцця адзінага, бадай, высакароднага шляхетнага дому

на тэрыторыі былога ВКЛ, які напрыканцы XIX стагоддзя катэгарычна прылічаў сябе да беларусаў-літвінаў. Нават калі б не было пазнейшай фундатарскай дзейнасці княгіні яе б было варта паважаць за непахісную любоў да Бацькаўшчыны і яе веру ў станаўленне, неўзабаве, незалежнай беларускай дзяржавы.

Храналагічная і сэнсавая незавершанасць успамінаў, безумоўна, выклікае пытанні: ці то аўтарка сама не здолела больш распавесці пра сваё жыццё, ці то частка ўспамінаў яшчэ чакае дзесьці свайго даследчыка? Але з упэўненасцю можна сцвярджаць, што жыццяпіс дзіцячых гадоў Магдаліны адноўлены дакладна.

***Юстын МУРАШКА***

## КНЯГІНЯ МАГДАЛЕНА-МАТЫЛЬДА РАДЗІВІЛ

***Успаміны***

*(Меншчына, 1917–18 гг. Маёнтак Кухцічы Ігуменскага павету)*

Пазнаёміў мяне з княгіняй Радзівіл яе прыяцель Скірмунт з Палесся ў 1917 г. у Менску.

Па прыездзе маім у Менск-Беларускі ў 1917 г. на Усебеларускі Кангрэс я ўжо болей не выязджаў у Пецярбург, бо туды вярнуцца я не мог дзеля таго, што там майго сябра Часлава Радзевіча бальшавікі арыштавалі, пасадзіўшы ў Смольны, а я ўцёк з кватэры па 6-й Ражджэсцвенскай вуліцы, хоць там і быў пастаўлены пільнаваць мяне матрос пасля адвозу ў Смольны Ч. Радзевіча. Жыў я ў адным памяшканні з Ч. Радзе-

вічам і разам з ім працаваў у Міністэрстве харчавання (Анічкін дварэц за часоў Керанскага).

Пазнаёміўся я ў Менску са Скірмунтам, а ён мяне пазнаёміў з княгіняй Радзівіл, якая жыла ў Менску на Захараўскай вуліцы ў часе нямецкай акупацыі 1917–1918 гг. Прывёў мяне да яе Скірмунт у 3–4 гадзіне ўдзень, яна ахвотна мяне прыняла, прасіла застацца ў яе пасля адыходу Скірмунта, які хутка выйшаў, пачала мяне частаваць гарбатай і бабкай. Прасядзеў я ў яе так доўга, пакуль яна прасіла заставацца, аж да 1-й гадзіны ўначы.

Пасля некалькіх маіх візытаў у княгіні Радзівіл яна мне запрапанавала заняць у яе пасаду ў маёнтку Кухцічах у адміністрацыі. Скірмунт радзіў мне гэтую працу прыняць, лічачы, што яна можа прынесці вялікую карысць для беларусаў, бо княгіня — вялікая багачка і адносіцца да нас надта спагадліва, а нават неаднойчы шчодра дапамагала беларусам грашыма. Пры гэтым ён папярэдзіў мяне, што з ёю трэба трымацца карэктна. Парадзіўся я яшчэ са сваімі сябрамі аб пасадзе ў княгіні і сваім сталаванні ў яе. Смяяліся ўсе яны, калі я ім расказваў аб сваёй гасціне ў княгіні, як я быў прыманы ў яе першыя дні, як яна мяне частавала кожны дзень куранятамі, індыкамі ды парасятамі. Дзівілася, мусіць, яна, што я паядаю такую колькасць усяго і загадвала даваць мне ўсяго болей, каб я не заставаўся галодны.

Калі ж вечарамі ізноў запрашала мяне прыйсці, я абавязкава прыходзіў да яе на вячэру, частавала ізноў і пыталася, ці хопіць дома (дзе я амаль нічога не меў, апрача яе стала), я заўсёды казаў, што маю дастаткова яды, але нягледзячы на гэта не раз прысылала і дамоў, даручыўшы лёкаю даведацца, як я жыву. Лёкай быў страшэнна адданы княгіні і яе шанаваў як ён толькі

гэта ўмеў, але дзяліўся са мною, расказваючы аб яе жыцці, яе жаданнях.

Так прайшло з месяц часу, пакуль яна мяне прыняла на свайго «ўрадаўца» ў маёнтак Кухцічы, пакуль дастаў я за яе пратэкцыяй дазвол ад ваеннай улады на пераезд у Кухцічы, бо страшэнна здоўжылася чакаць, пакуль нарэшце апынуся на працы, якой, ніколі ў маёнтках не быўшы, не бачыў.

Атрымаўшы з княгініных рук дазвол на выезд, думаў, што сяду і паеду да яе на працу праз станцыю Негарэлае, аб якой некалькі разоў княгіня расказвала, але не так здарылася, як і яна хацела, і я. Немцы з камэндатуры загадалі мне сабрацца з рэчамі і дастацца (як — гэта, вядома, іх не цікавіла) на станцыю ў Менску. Там мяне чакалі два канваіры, якія давезлі мяне да Негарэлага, а адтуль да мястэчка Узда, ад Кухціч — 3 км, да камэндатуры, і толькі адтуль камэндант, ізноў з жаўнерамі, даставіў мяне ў маёнтак Кухцічы.

Спачатку галоўнае ўпраўленне было ў маёнтку Кухцічы, а потым перанесена яно было ў маёнтак Каменка. Кухцічы мелі шмат ворнай зямлі, было 185 пар рабочых коней, шмат быдла, свіней, была свая сталярня, рымарня, малачарня, пахтар-жыд, які вырабляў сыры, гнулі палазы, абады, кузня, шмат пчолаў, вялікі гарод-сад, каторы быў абнесены загародай. Казала княгіня, што ўпраўляючы зарабіў на абгародцы саду 20000 руб. і купіў сабе фальварак. Была выкапана канава і рыбны стаў. Старадаўні аднапавярховы палац з яго фасадам і калёнамі перад пад’ездам лічыў не менш як 300 гадоў. Пасярэдзіне, як княгіня называла, дварца жыла яна сама, а з усходняга боку была канцылярыя і жыў я. У заходнім крыле палаца жыў загадчык маёнткаў. Да княгіні ішлося ад уваходу направа. Тут жыла яна, тут і прымала інтэрэсантаў, заўсёды седзячы над сваімі ка-

ронкамі. Насупраць параднага ўвахода была сталовая, аграмадныя пакоі ўсюды застаўлены шафамі з разнаякай зброяй забітага князя. Гэтай зброі яна нікому не давала. Паркетныя падлогі блішчэлі рознакаляровымі ружамі, выробленымі з рознакаляровага дрэва.

Першыя дні пасля прыезду былі днямі працы амаль без адпачынку, бо мне камісар маёнтка, аграном-паляк, даў столькі работы, што я мусіў працаваць пачынаючы ад 5 гадз. раніцы да 10 увечары дзеля таго, што мусіў упарадкаваць усю заблытаную працу канцылярыі ўпраўлення кухціцкіх маёнткаў. Княгіня недалюблівала гэтага агранома як паляка і потым, калі мы бліжэй пазнаёміліся, часта гаварыла мне: «Шкада, што ў нас, беларусаў, няма сваіх аграномаў», хацела яго выгнаць, але ён быў добры чалавек і, як рэдка бывае, справядлівы.

Так працаваў я каля 3-х месяцаў да прыезду княгіні з Менска. Калі прыехала княгіня Радзівіл, яна выклікала загадчыка маёнткаў агранома Лалеша і сказала яму, што ўсе новыя загады ён можа праводзіць у жыццё толькі пасля ўзгаднення са мною. Дакладваць усе справы княгіні павінен быў я. Гэтае рэфэраванне справаў перад княгіняй часта пераходзіла ў гутарку аб самых разнаякіх справах. Пры гэтым закранался беларуская справа, якая тады з кожным днём набірала сілы і актуальнасці.

Княгіня мне часта расказвала аб тым, што яна выдала на беларускую справу розным асобам 60000 руб., называючы пры гэтым імёны Іваноўскага, Ластоўскага, Алексюка, Уласава, братоў Луцкевічаў і інш. Найбольш была незадаволена з Уласава, бо ён, прыехаўшы да княгіні і не застаўшы дома, загадаў сам, каб яму далі есці. Гэта асабліва моцна раззлавала княгіню, у якой справа такту і ўмення захоўвацца была на першым мейсцы.

Атрымаўшы вялікія паўнамоцтвы ў адміністраванні маёнткамі і ведаючы прыхільнасць княгіні да

беларускай справы, я паставіў сабе заданне ўвесці беларускае справаводства ва ўпраўленне ўсімі маёнткамі. Гэта было прадстаўлена мной княгіні, і яна ахвотна згадзілася. Наогул што тычылася беларускай справы ці выдаткаў на гэта, яна гаварыла: «Я грошай для сваіх беларусаў не шкадую, мы мусім зрабіць» і г. д. Парадзіўся я ў Менску з Аркадзем Смолічам (за яго і Лёсіка парадай я ўсё рабіў, што мог), што да новых друкаў кнігаў па-беларуску ён мне дапамог у перакладах, і за 2 месяцы ўсе канцылярыі ў 18 маёнтках перайшлі на беларускую мову. Былі ўведзены новыя кнігі з беларускімі загалоўкавымі тэкстамі, прыняты шэраг новых працаўнікоў-беларусаў і ўрэшце было забаронена ўжыванне іншага справаводства як беларускае не толькі ў маёнтках, а нават у 8-мі лясніцтвах, дзе быў загадчыкам надляснічы немец Шталь. Падпарадкавала княгіня і яго беларускаму справаводству. Страшэнна гэта было яму цяжка, але мне казаў, што для яго загад княгіні — гэта святасць, і ён выканае ўсё ў 100%. Усім, хто не ўмеў па-беларуску, ён загадаў вучыцца, даўшы на гэта 2-месячны тэрмін, а хто не падпарадкаваўся, быў звольнены (так было ў Зосінскім лясніцтве). У канторах на сценах былі расклееены надпісы: «Гаварыць іначай, як па-беларуску, у часе ўрадавання забараняецца» і г. д. Гэта было ўведзена пачынаючы ад галоўнага ўпраўлення кухціцкіх маёнткаў да малога фальварка, а нават лесніка, аканома і г. д. — беларуская мова была ўведзена ўсюды. Нярэдка сама княгіня з’яўлялася ў нейкі малавядомы фальварак і кантралявала, ці ўсё вядзецца па-беларуску. Яна вымагала, каб з ёю гаварылі па-беларуску. У хуткім часе я прапанаваў ёй, каб у яе маёнтках увесці ўсюды беларускія школы для дзяцей работнікаў. На гэта княгіня ахвотна згадзілася і такім чынам у большых маёнтках: Кухцічах, Каменцы і Уздзе

былі адчынены беларускія школы. Настаўнікам была вызначана не толькі пэнсія, а таксама ардынарыя і кватэра нароўні з усімі іншымі працаўнікамі. У Кухцічы прывёз я на становішча настаўніцы са Стоўбцаў сястру Канстанцыі Буйло. Яна засталася там настаўніцай і пасля адыходу немцаў. У мястэчку Узда была адчынена рамесная школа, на каторую княгіня асыгнавала 20000 руб. у год, дала дом і даручыла ляснічаму Шталю пастаўляць усе патрэбныя для майстэрняў матэрыялы. У доме потым 3 разы ставілі беларускія спэктаклі. 2 разы на спектаклях была сама княгіня, з'яўляючыся з вялікім шыкам у запрэжанай шасцёркай коней павозцы. Купляла яна месцы сабе і мне па 100 руб., што тады было вялікімі грашыма. Дзеля арганізавання тэатру я збіраў настаўнікаў і былых вайсковых з вёсак. Спасярод іх памятаю з вёскі Каменка Дубовіна, з вёскі Нізок Міхалку, якія нярэдка ў мяне былі ў Кухцічах і часта начавалі пасля зборак. Артыстам-малярам у нас быў мой сябра С. Валансевіч, каторага я прывёз з Менска да сябе, і ён маляваў усё, што толькі было патрэбна як для школаў, так і дзеля сцэны. Мастак ён быў добры і шчыры працаўнік. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. Знаў яго я з дзяцінных гадоў.

Княгіня Радзівіл нягледзячы на свае 64 гады чулася бадзёра і пры кожнай нагодзе зменшвала сабе 10 год. Яна трымалася малажава, а да таго ж жанчыны застаюцца заўсёды жанчынамі. Яна расказвала мне шмат пра свайго памерлага мужа князя Радзівіла, камандзіра ўланскага палка, каторага забілі на вайне немцы і цела якога яна прывезла да сябе ў Кухцічы і пахавала ў склепе маёнткавага касцёла. Стаяў князь у металёвай труне забальзамаваны, абстаўлены вянкамі сярэбранымі, фарфоравымі і іншымі, сярод каторых у нагах кідаўся ў вочы вянок з зелені, з вялікай нацыя-

нальнай беларускай істужкай, на каторай было напісана: «Пухам Табе, Князь, зямелька ў Тваёй Роднай Старонцы».

Князь Радзівіл быў яе другім мужам, першы быў нейкі граф. Родам княгіня была з Завішаў, як яна расказвала. Па-мойму, была яна вельмі добрая асоба і ўсімі сіламі хацела дапамагчы беларусам, але яе мала хто разумеў, і часам выкарыстоўвалі яе дабрату, як цыганы, схапіўшы, што далося, і растраціўшы грошы не на тое, на што яны былі ўзяты. Таму і недаверліва адносілася княгіня да тых, хто з'яўляўся да яе з грашовымі справамі. Часта ў такіх выпадках пасля дакладу лёкаем прозвішча прыбыўшага яна казала: «А гэта злодзей, я не хачу яго бачыць» і г. д., хоць пасля, пачакаўшы, прымала яго і нешта дала яму. Выправіўшы госця, княгіня казала: «Я яму не веру, ён не варты, але няхай яму будзе за яго падарожжа». За гэта яе часам называлі неразумнай, але яна была разумнейшая за тых, хто яе называў так, бо яна іх навылёт бачыла і толькі праз сваю дабрату свядома дазваляла сябе ашукваць.

Княгіня расказвала мне, што калі біскуп Лазінскі ў 1918 г. прыехаў да яе з візытам, яна яму дала звязду з брыльянтаў, якая каштавала ў той час, як яна выходзіла першы раз замуж, 60000 руб. У гэтым жа годзе княгіня падаравала літоўцам сэрвіз сярэбраны на 120 кувэртаў. Колькі каштаваў гэты сэрвіз, яна не памятала. Беларусам княгіня казала: «Калі будзе свая дзяржава, беларусам ад мяне на памятку я маю ў 20 разоў каштаўнейшыя падарункі, як гэта ўсё разам узятае, і я ім гэта аддам». Гэтага свайго абяцання княгіня не магла выканаць, бо Беларусь захапілі пад сваю ўладу яе ворагі, і да гэтага часу наш народ не мае волі і незалежнасці, хоць і рэклямуюць яго «прадстаўнікі» Беларусі Кісялёвы ды іншыя, да яго падобныя.

Княгіня Радзівіл мела ў Меншчыне і Бабруйшчыне 75000 дзесяцін зямлі і лесу і лічылася адным з найбагацейшых абшарнікаў на Беларусі. Расказвала, што як выйшла замуж за князя Радзівіла, то ён не меў маёнткаў, а яна яму падаравала вялікі маёнтак Холуй каля ст. Асіповічы, каторы ацэньвала ў шмат тысяч рублёў. За 13 гадоў жыцця з кн. Радзівілам ён пражыў ёй 15 000 000 руб. амаль пры ўсім гатовым. Улюбёным заняткам князя была язда вярхом. У стайні ў Кухцічах князь меў да 40 коней, пераважна рысакоў. Княгіня разам не ездзіла з князем, але ў маладых гадох, расказывала, ахвотна ездзіла вярхом, пры гэтым вельмі хутка. Седзячы ў крэсле і расказваючы аб усім гэтым, яна звычайна рабіла каронкі на падушачцы. Пры гэтым княгіня шмат курыла і часта гасіла папяросу аб падэшву свайго камаша ў чыёй бы ні было прысутнасці. Мела залацістага колеру падобных да таксаў лахматых, з вылязшымі вачыма на лоб сабачак, за каторымі прападала.

Часта расказвала княгіня пра алмазныя палі недзе ў Аўстраліі, каторыя былі яе прадпрыемствам і куды яна ўлажыла шмат мільёнаў рублёў, будучы спаўуласніцай. Часта прысылала мне аўстралійскай супы, каторую я проста казаў лякаю выліваць майму знакамітаму, падарованаму мне княгіняй фокстэр’еру.

На балі ў княгіні бываў я некулькі разоў. Аднойчы яна прымала генерала немца Фалькенгейма з цэлым штабам ахфіцэраў. Сядзеў побач яе і я, з абдзёртымі локцямі, але новымі пагонамі, каторыя яна прычапіла мне. Казала, што яна не любіць сваіх урадаўцаў элеганцка апранутымі, бо яны элегантуюцца за крадзеныя ў яе грошы. Праўда, красці ў яе я не патрабаваў, бо княгіня плаціла мне вельмі добра. Немцам яна гаварыла ў вочы, што яны вайну прайграюць. Забараняла ім паляваць у сваіх лясах. Княгіня забараніла немцам даваць

быдла па рэквізіцыі. Калі аднойчы прыехаў ад'ютант гэтага самага Фалькенгейма, які быў камандзірам 10-й арміі, прасіць дазволу на аблаву ў яе лясах, княгіня адмовіла і сказала, што калі немцы будуць паляваць, яна напіша скаргу іх кайзеру Вільгельму, а нам даручыла паведамляць ёй аб усіх паляваннях немцаў у яе лясах. Смяяліся, што княгіня аб'явіла вайну нямецкай 10-й арміі, каторай яна страшэнна не любіла за рабункі, якія папаўнялі немцы.

Яна мела адну дачку, каторую выдала замуж за князя Чартарыйскага, нейкага пляменніка аўстрыйскага імпэратара Франца-Іосіфа. Князь Чартарыйскі ў той час быў генералам і кіраваў нейкім корпусам у аўстрыйскай арміі. Дачка княгіні мела шмат дзяцей, партрэтаў якіх было поўна ў старой княгіні.

Са сваімі падуладнымі княгіня была добрай і за працу ўзнагароджвала шчодра. Нярэдка, калі з'яўляўся да яе нехта пагарэўшы з просьбай аб дазвол высечы кроквы на хату, княгіня не толькі давала гэты дазвол, але як беднаму беларусу дала дрэва на два дамы поўнасцю з кроквамі і дошкамі, а яшчэ ў дадатак 3000 руб. на пражыццё з сям'ёй як пагарэўшаму. Так надзяляла яна шчодра, калі даведвалася, што той, хто звяртаўся да яе з просьбай, сапраўды беларус і бедны чалавек, якому неабходна дапамога. Працаўнікі княгіні займалі свае становішчы з дзеда-прадзеда і часта-густа амаль нічога не рабілі, а атрымоўвалі ад яе ўсё за тое, што іх дзяды і бацькі ў яе працавалі. Булынка-сталяр працаваў у яе ў палацы 40 гадоў. За гэта вучыла яго дзяцей на свой кошт. Лесніка Мяцежу яна вышэй цаніла, як загадчыка маёнткаў, бо княгіня яму верыла, і ён быў гэтага варты. Аканом Карзон вывучыў пры яе дапамозе сыноў сваіх — аднаго на доктара, другога на ахфіцэра, і на іх яна магла палягаць. Хто праслужыў у яе 15–10 га-

доў, атрымоўваў узнагароду, апрача сталай пэнсіі, па 2–3–5.000 руб. У Кухцічах домікі для парабкаў былі ўзорам для добрага мястэчка. Кожная кватэрка мела 2 пакоі і кухню. Сямейны працаўнік меў права на кошт маёнтку трымаць карову, 2 свінні, курэй і 1/2 дзесяціны гароду плюс 7 пуд. дабра, дровы, соль, газа і 10 руб. грашыма ў месяц. Да таго поўную свабоду ад усякіх сабранняў, якімі сягоння так шчодра кормяць калгасніка ў краіне сацыялізму.

Выехала княгіня ў госці да сваёй дачкі ў Аўстрыю і ўжо ўбачыў я яе значна пазней у Варшаве на вул. Фоксаль, № 3, дзе яна мела свой дом (яна называла палац), каторы хацелі ў яе палякі заняць пад нейкі ўрад, але яна не дала, звярнуўшыся да англійскай амбасады па апеку над ёй як англійскай грамадзянкай. Пакінула яна, як расказвала, у Менску, вялікі скарб золата і брыльянтаў, ацэньваючы яго на 12 000 000 руб. золатам. Не шкадавала яна, што асталося, але казала: ляпей бы гэта дасталася сваім, беларусам. Потым выехала княгіня ў Швайцарыю ў Цюрых, бо не магла цярпець, як яна казала, здзеку палякаў над ёй. Там мы і развіталіся, бо я выехаў дзеля беларускай працы ў Вільню, а пазней у Менск як сябра Беларускай Вайсковай Камісыі.

Па гэтым закончваю свае ўспаміны аб княгіні Магдалене-Матыльдзе Радзівіл. Магчыма, сёе-тое ў іх ёсць малаважнае ці нават непатрэбнае, аднак з огляду на тое, што княгіня Радзівіл у свой час адыграла ў беларускім нацыянальным жыцці значную ролю, папулярызуючы беларускую справу ў вышэйшых колах грамадства, а адначасна падводзячы пад малады рух так неабходную матэрыяльную базу, я хацеў праз гэтыя ўспаміны накінуць у нашай літаратуры след аб тым, што мала ведама і можа (хоць не павінна) быць забыта.

Усё ж частка грошай гэтай беларускай магнаткі як сплата гістарычнага маральнага доўгу, зацягнутага пакінуўшымі свой народ беларускімі магнатамі ў пару яго дзяржаўнага нацыянальнага заняпаду, пайшла на карысць абуджэння гэтага народа ў пару ягонага адраджэння.

Дадам, што апошні раз, перад вайной, жыла княгіня ў Цюрыху, адкуль яшчэ прысылала патроху грошы ў Вільню на беларускую нацыянальную працу.

*Studencki Klič. — № 1/15. — München, 1947. — S. 10.*

***Г. ПІХУРА (Гай ПІКАРДА)***

## КНЯГІНЯ МАГДАЛЕНА РАДЗІВІЛ

Дваццаць год таму, 6 студзеня 1945 г., у Фрыбургу ў Швейцарыі памерла княгіня Магдалена Радзівіл, пражыўшы 85 гадоў. Старэйшае пакаленне беларусаў, якое бачыла і перажыло падзеі 1917–1918 гг., яшчэ памятае тую ролю, якую яна адыграла ў беларускім нацыянальным руху.

Магдалена Радзівіл была адной з найбольш маляўнічых фігур навейшай беларускай гісторыі. Нарадзілася ў Варшаве 8 ліпеня 1861 г. Бацька яе, граф Завіша-Кежгайла, паходзіў са знатнай літоўска-беларускай сям'і і быў вялікім патрыётам. Любіў адведваць сялян, якія жылі на ягоных землях у Жорнаўцы і Кухцічах, і гутарыць з імі на роднай беларускай мове. Маладая Магдалена, чые раннія гады жыцця прайшлі ў гэтых маёнтках, хутка не толькі навучылася ад бацькі любіць беларускі народ, але пачала пачуваць сябе беларускай.

Маці Магдалены, Марыя, з дому графіня Хвілецкая, была перакананай полькаю. Ейныя касмапалітычныя нахілы цягнулі яе хутчэй да Парыжа ці Лондана, чым да беларускіх вёсак мужа.

Дзяцінства Магдалены прайшло пад апекаю французскіх і англійскіх гувернантак, якія ўпаілі ў яе любоў да французскай цывілізацыі і да літаратуры. Яна атрымала ўзгадаванне вялікай дамы «siécle de lumiére» і такой яна асталася да канца жыцця.

У 1881 г. Магдалена выйшла замуж за графа Людвіка Красінскага, брата вядомага польскага паэта. У іх нарадзілася дачка Луіза, пазней графіня Чартарыйская. Красінскі памёр у 1895 г. Пасля смерці мужа Магдалена шмат падарожнічала па Еўропе. У 1906 г. у Лондане яна выходзіць другі раз замуж за князя Міколу Радзівіла, вялікага эксцэнтрыка і масквафіла, на дваццаць гадоў малодшейшага за яе. Шлюб адбыўся ў каралеўскай Баварскай капліцы.

У гэтым самым часе наступае зрыў адносінаў паміж Магдаленаю і польскім грамадствам, якое досыць непрыхільна адносілася да ейнага мужа[1]. Яна аддаецца поўнасцю ідэі незалежнасці Беларусі і ўстанаўленню добрых адносінаў між беларусамі і іхнымі суседзямі летувісамі і ўкраінцамі[2].

Хутка пасля выбуху сусветнай вайны, 30 лістапада 1914 г., Мікола Радзівіл згінуў ва Усходняй Прусіі. Магдалена цяпер праводзіць свой час або ў сваіх маёнтках, або ў Менску ў доме на Захараўскай вуліцы. У 1918 г. яна была змушана ўцякаць з Беларусі перад бальшавіцкімі акупантамі. Спярша пасялілася ў Варшаве, але ў 1922 г. пераязджае ў Коўна, а адтуль — у Нямеччыну, дзе аддаецца ўсё больш і больш дабрачыннай дзейнасці. Надыход фашызму, да якога яна чула поўную пагарду, змусіў яе шукаць новага прыстанішча ў Швейцарыі.

У 1932 г. пераязджае ў Фрыбург, дзе пасяляецца ў манастыры сясцёр дамініканак. Там аставалася да самае смерці.

Магдалена Радзівіл была да канца вернай сваім ідэалам. Будучы беларускай, зрабіла таксама шмат дабра і для летувісаў. Удзячны летувіскі ўрад узнагародзіў яе Вялікім крыжам ордэна Гедыміна. Згодна з яе апошняю воляю, у яе дамавіну былі паложаны адзнакі з Вялікага Літоўскага Княжства, якія яна высока цаніла на працягу ўсяго свайго жыцця.

Магдалена Радзівіл была сярэдняга ўзросту. Яе фігура была поўная павагі і нават маестату. Нават у старасці захавала вялікую прыгожасць, з класічным профілем, шэрымі вачамі і белымі валасамі. Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ёй падабалася вязанне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту[3].

Ад дзяцінства Магдалена Радзівіл была вялікай беларускай патрыёткай. Яна ніколі не скрывалася з сваёй нацыянальнасцю. Калі графіня Караставец, ейная шматгадовая прыяцелька, аднойчы зрабіла ў гэтым памылку, Магдалена адразу яе папpавіла. «Не! — быў яе горды адказ. — Я — беларуска».

Як і яе бацька, княгіня Магдалена не адчувала вялікай прыхільнасці да палякаў (што вельмі злавала некаторыя польскія кругі) і, дзе магла, старалася не гаварыць на іхняй мове. Яе адносіны да расейцаў былі падобныя. З сваімі прыяцелямі гутарыла па-беларуску, або па-французску. Сярод еўрапейскай арыстакратыі яна была ведамая як дзівачка, што аддалася справе «беларускіх мужыкоў».

Для гэтых «мужыкоў» і для беларускіх нацыянальных дзеячаў яна сапраўды рабіла ўсё, што магла, каб заахвоціць усе пласты беларускага насельніцтва

карыстацца як найбольш роднаю моваю. Беларуская мова была абавязковай ва ўсіх яе маёнтках.

Асабліва Магдалена цікавілася пытаннем асветы моладзі з мэтаю ўзгадавання беларускіх інтэлектуальных кадраў. На абшары яе валоданняў у вёсках Кухцічы, Каменка і Узда яна загадала адчыніць беларускія школы[4]. Яна давала грашовую дапамогу і стыпендыі беларускім студэнтам у Вільні і іншых універсітэтах. Не раз казала: «Я грошай для маіх беларусаў не шкадую».

Асабліва блізкай яе сэрцу была справа ўзгадавання беларускіх святароў. Яна ўспамагала грашова маладых беларускіх семінарыстаў і прыракла айцу (пасля архімандрыту) Ф. Абрантовічу вялікую суму на залажэнне беларускай (уніяцкай) калегіі ў Рыме. На жаль, з гэтага праекта нічога не выйшла, бо маёмасці, з якіх мелі чэрпацца на гэта фонды, папалі ў рукі бальшавікоў[5]. Часопіс «Беларус», які друкаваўся лацінкай, выходзіў дзякуючы шчодрай дапамозе княгіні, якая пакрывала дэфіцыт[6].

Магдалена Радзівіл іграла паважную ролю ў беларускім палітычным жыцці і была шчырай прыхільніцай БНР. Яе дом у Менску і маёнтак у Кухцічах былі ўлюбёным месцам зборак беларускіх дзеячаў (да 1918 г.). Яна была ў прыяцельскіх зносінах са Скірмунтам. Яе наведвалі такія дзеячы, як Іваноўскі, Ластоўскі, Уласаў і браты Луцкевічы: усім ім яна давала маральную падтрымку і грашовую дапамогу[7].

На выгнанні Магдалена Радзівіл таксама не забывалася аб беларусах. З Нямеччыны і Швейцарыі яна слала дапамогу беларускім студэнтам і ўспамагала беларускія арганізацыі ў Вільні.

Калі наспеў час для народа ўтварыць армію, каб абараняць нядаўна абвешчаную незалежнасць свайго

краю, княгіня Радзівіл на ўласны кошт ахвяравала азброенне для некалькі аддзелаў.

Магдалена Радзівіл памерла, калі ейная бацькаўшчына Беларусь сталася зноў ахвяраю вайны і здзеку. У часе, калі ўвесь свет быў ахоплены жахам сусветнай вайны, смерць гэтае жанчыны ў ціхім манастыры ў Швейцарыі прайшла амаль незаўважанаю. Няма, аднак, сумніву, што прыйдзе час, калі беларусы будуць успамінаць з гордасцю імя гэтае вялікай дачкі свайго народа.

---

[1] Michał Pawlikowski. Dzieje i młodość Tad. Irteńskiego. — London, 1959. — S. 131–183.

[2] Cf. K. Matulaitis. Londono Letuvini. — Mariumpole, 1939. — S. 73–74; Lietuvu Enciklopedija. — Vol. I. — Boston, 1953. — P. 343; Ibid. — vol. XXIV. — Boston (Mass.), 1961. — P. 379.

[3] Гэтыя біяграфічныя лісткі я атрымаў ад графіні Ст. Замойскай. Яна мне такжа прыязна паказала напісаныя рукою кн. М. Радзівіл Успаміны (толькі нататкі), за што Ёй на гэтым месцы выказваю шчырае прызнанне і падзяку.

[4] Cf. J(ustyn) M(uraška). Kniahinia Mahdalena Radziwiłł — Uspaminy. — Studencki Klič. — № 1/15. — München, 1947. — S. 10.

[5] Чэслаў Сіповіч. Айцец Архімандрьгг Абрантовіч. — Божым шляхам. — № 78–81. — Парыж, 1957. — С. 12.

[6] J. Muraška. Op. cit. — S. 9.

[7] Ad. Stankievič. Bieł. Chryácijanski Ruch // Chryścijanskaja Dumka. — № 12 (160). — Vilnia, 1938. — S. 5.

*Божым шляхам, 1965, № 2.*

# У ВЯНОК МАГДАЛЕНЕ

*Андрэй ЗЯЗЮЛЯ*

## ЛІРНІК

*Пасьвячаю М. Р.*

Толькі вочы працёр, —
Дзень, заясніўся ўсход,
Валачэцца у двор
Бедны лірнік з варот.
Каб дарогу знайсці,
Ён ці ўночы, ці ўдзень
Кіем б’е па пуці,
Бо сляпы, як той пень.
Падышоў пад пакой,
Ліру з плеч худых зняў
І нясмела рукой
Ціха строіць пачаў.
Пасля ў дзверы стукнуў
Злёгку кіем раз зноў,
Каб лакей хоць пачуў
Ці хтокольвек з паноў.
Доўга спалі паны,
Не будзіў іх лакей;
А ты дзед нявісны,
Хвілю шчэ пачакай.
Толькі пані адна
Нейк пачула той грук
І цікава з вакна
Спазірнула ўвакруг.
Відзіць — лірнік сядзіць
З лірай-кобзай сваей,

І, казаў бы, глядзіць
Ўсё на клямкі дзвярэй.
Вось на ганак свой крок
Скіравала прытном,
Каб пачуць, як дзядок
Будзе граць пад вакном.
Хвілек некалькі ён,
Як і ўперад, маўчаў —
І прабуючы тон,
Струны злёгку чапаў.
Ўрэшце цяжка ўздыхнуў,
Вочы к небу узняў,
Корбай ўмах павярнуў,
Клавішы перабраў.
Затрымцела струна,
Глуха шурхнуў клавіш —
І пад тон быліна
Палілася у выш.
Ад душы усяе
Са слязою бядак
Аб мінуўшым пяе,
Каб пачуў з нас усяк.
І да пані таей
Надышло больш паноў,
І дваровых людзей
Слухаць ліры і слоў.
Чаравала усіх
Песня-быль кабзара:
Расчуляўся у іх
Кожны жыхар двара.
Пакрапляўся ў духу,
Горкі ўспомніўшы лёс, —
І сляпню-бедаку
Грош ялмужніны нёс
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Кончыў дзед быліну,
　　　　Ліру ўзвесіў ізноў,
І будзіць з мары-сну
　　　　Люд вясковы пайшоў…

*1913*

## *Ірына БАГДАНОВІЧ*

## РУЖАНЕЦ МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ

Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ёй падабалася вязанне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту.

*Г. Піхура*

Яснавяльможная Пані,
Шчырым паклонам вітаем!
Вы адраджэнскія ранні
Годна ўзвясцілі над Краем.

Дыхаў тут сівер сурова,
Плакалі ўзвышшы і долы,
Вы ж з беларускаю мовай
Школы злучалі й касцёлы.

Лебедзь быў знакам на кнігах —
Вашым для іх благаславеннем,
І ў маразах, і ў адлігах
Ён для нашчадкаў — натхненнем.

Цуд ружанцовых малітваў
За Беларусь Вы сплятаў,
Цішачы горыч па бітвах,
Яснавяльможная Пані!..

*2011*

# КОРАТКА ПРА АЎТАРАЎ

**Багдановіч Ірына** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, старшыня Рэспубліканскага аддзялення ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».

**Віяленцій Ірына** — галоўны захавальнік фондаў Уздзенскага раённага краязнаўчага музея.

**Зварыка Ірына** — вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

**Зязюля Андрэй** (сапр. Астрамовіч Аляксандр, 1878–1921) — беларускі паэт і каталіцкі святар.

**Кулажанка Андрэй** — на час напісання артыкула Часовы паверaны (пасол) у справах Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі.

**Мальдзіс Адам** — доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня (цяпер ганаровы старшыня) ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».

**Мурашка Юстын** — упраўляючы канцылярыі кухціцкіх маёнткаў княгіні Магдалены Радзівіл у 1917–1918 гг., сябра Рады БНР, аўтар успамінаў.

**Пікарда Гай** (псеўд. Г. Піхура, 1931–2007) — англійскі даследчык беларускай культуры, духоўнай беларускай музыкі. Нарадзіўся і жыў у Лондане. Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

**Унучак Андрэй** — кандыдат гістарычных навук, загадчык сектара гістарыяграфіі і метадаў гістарычных даследаванняў Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

**Федарук Анатоль** — доктар біялагічных навук, прафесар кафедры агульнай біялогіі БДПУ імя М.Танка, даследчык сядзібнай архітэктуры і паркавага ландшафту Беларусі.

**Хурсік Віктар** — пісьменнік, журналіст, кнігавыдавец, аўтар кнігі «Белы лебедзь у промнях славы: Магдаліна Радзівіл» (2001).

**Цітавец Алена** — загадчык сектара кнігазнаўства Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі.

**Цыркуноў Алесь** — мастак, аўтар карціны «Магдалена Радзівіл» (2005).

**Яноўская Валянціна** — кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела гісторыі беларускай дзяржаўнасці Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

# ЗМЕСТ

*Навукова-папулярнае выданне*

**АСВЕТНІЦА І МЕЦЭНАТКА**
Да 150-годдзя Магдалены з Завішаў Радзівіл
*Матэрыялы круглага стала*
*(Мінск, 15 снежня 2011 года)*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Ірына Багдановіч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Андрэева*

Падпісана да друку 30.01.2013. Фармат 80x100 $^{1}/_{32}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 3,57. Ум. друк. арк. 4,63.
Наклад 150 асобнікаў. Зак. 70.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33,
тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
ЛП № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск